# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1966
Травень-Чэрвень

Год XIV
№ 3 (96)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1966 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**
**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**
**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIV** **May—June 1966** **№ 3 (96)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XIV ТРАВЕНЬ — ЧЭРВЕНЬ, 1966 № 3 (96)

# Пасланьні II-га Ватыканскага Сабору
## ДА ЎСЯГО ЧАЛАВЕЦТВА

У № 1 і 2-ім нашага часапісу мы зьмяшчалі ПАСЛАНЬНІ Сабору, які перад сваім закрыцьцём жадаў разьвітацца з усімі вернікамі. Асталіся яшчэ два ПАСЛАНЬНІ — самыя сардэчныя і ласкавыя — да *бедных, хворых* і тых, што церпяць, а такжа да *моладзі*. Гэта якраз дзьве катэгорыі людзей вельмі важныя: адны адыходзяць із сьвету, а другія надыходзяць — і адны і другія патрабуюць добрае рады, сардэчнага слова, перасьцярогі і падтрымкі.

Найперш даём ПАСЛАНЬНЕ

### ДА БЕДНЫХ, ХВОРЫХ І ДА УСІХ, ХТО ЦЕРПІЦЬ

**Усім вам, выпрабаваным Братом, якія пераносіце рознародныя цярпеньні, Сабор мае спэцыяльны зварот. Сабор чуе зьверненыя да сябе вашыя молячыя вочы, з бляскам гарачкі, змораныя турботай; дапытлівыя позіркі, якія дарэмна шукаюць прычыну людзкога цярпеньня, і якія клапатліва пытаюць, калі і скуль прыйдзе падтрымка...**

**Наймілейшыя Браты, у нашых сэрцах — айцоў і пастыраў — глыбока адзываецца вашае ўздыханьне і жальба. І нашая турбота ўзрастае, як падумаем, што нам немагчыма ні вярнуць вам здароўе, ні зьменшыць вашыя фізычныя слабасьці, якія лекары, сёстры і ўсе, што ахвяруюцца на службу хворых, стараюцца аблягчыць, як толькі могуць.**

**Аднак мы маем даць вам нешта глыбейшае і больш каштоўнае: адзіную праўду здольную даць адказ на тайніцу цярпеньня і вам прынесьці палёгку без падману; веру і лучнасьць з Мужам цярпеньня, Хрыстом, Божым Сынам, прыбітым да крыжа за нашыя грахі і дзеля нашага збаўленьня.**

**Хрыстос ня зьліквідаваў цярпеньняў: ён нават не хацеў адкрыць нам усей тайніцы цярпеньня: прыняў гэтае на сябе і таго нам досыць, каб мы зразумелі ўсю яго вартасьць.**

**О, вы ўсе, што найбольш чуеце цяжар крыжа, вы — ўбогія і пакіненыя, вы — заплаканыя, вы — загнаныя дзеля справядлівасьці, вы — аб кім не гаворыцца, вы — зь няведамым болям, — здабудзьцеся на адвагу: вы атрымаеце пераваґу ў Божым валадарстве, валадарстве надзеі, шчасьця і жыцьця. Вы — браты церпячага Хрыста і зь Ім, калі зажадаеце, збавіце сьвет!**

**Вось хрысьціянская веда аб цярпеньні, адзіная, што прыносіць супакой. Ведайце, што вы не адзінокія, ні адлучаныя, ні пакіненыя, ані лішнія: вы пакліканыя ў Хрыста, вы — ягоны абраз, жывы і з одблескам. У ягоным імяні Сабор вітае вас з любасьцяй, вам дзякуе, упэўнівае вас аб дружбе і прысутнасьці Царквы і багаславіць вас.**

### ДА МОЛАДЗІ

**Нарэшце да вас, юнакі і дзяўчаты, Сабор кіруе свой апошні зварот. Бо вам даручыцца паходня з рук вашых айцоў і прыйдзецца жыць на сьвеце падчас вялічэзных яго перамен у гісторыі. Гэта-ж вы, дастаўшы найлепшы прыклад і абучэньне ад вашых бацькоў і настаўнікаў, будзеце тварыць грамадзтва заўтрашняга дня: вы або збавіцеся, або згінеце зь ім разам.**

**Царква ў працягу чатырох гадоў працавала над тым, каб абнавіць сваё аблічча, каб лепш адказаць на вымогу свайго Заснавальніка, вялікага-Жывучага, Хрыста вечна маладога. І ўканцы гэтага «перагляду жыцьця» — саліднага іспыту — Царква зьвяртаецца да вас. Гэта-ж да вас, моладзь, да вас асабліва, яна прыходзіць праз свой Сабор, каб запаліць сьвятло: сьвятло, што сьвеціць у прышласьць, вашую будучыню.**

**Царква заклапочана, каб гэтае грамадзтва, якое вы створыце, шанавала годнасьць, свабоду і права людзкое асобы: а гэтыя асобы — гэта вы самі.**

**Царква клапоціцца найбольш аб тым, каб гэтае грамадзтва дало магчымасьць пашырацца сваім скарбам — заўсёды старым і заўсёды новым: веры, і каб вашыя душы маглі свабодна абмывацца ў яе дабрадзейным сьвятле. Царква спадзяецца, што вы знойдзеце такую сілу і такую радасьць, што не ўпадзеце ў спакусу, як некаторыя з вашых старшых, каб не паддацца пакусе філязофіі самалюбства і прыемнасьці, або роспачы і нігілізму.**



*САБОР такжа зьвярнуўся да МОЛАДЗІ: Будзьце вялікадушнымі, чыстымі, ветлівымі, шчырымі!*

**Вы ў спатканьні з атэізмам, праявам зморанасьці і старасьці, будзеце аказваць вашую веру ў жыцьцё і ў здаровы сэнс жыцьця: пэўнасьць, што ёсьць Бог, справядлівы і добры.**

**Дык вось у імя гэтага Бога і Ягонага Сына Ісуса мы вас заклікаем пашырыць вашыя сэрцы на працягласьць сьвету, каб вы пачулі кліч вашых братоў і каб вы аддалі на іх услугу — сьмела — вашую маладую энэргію. Змагайцеся з усякім эгаізмам. Супрацiўцеся, каб не даваць вольнага шляху інстынкту гвалту і ненавісьці, зь якіх паўстаюць войны, а з гэтага галеча. Будзьце вялікадушнымі, чыстымі, паважнымі і шчырымі. Будуйце з запалам лепшы сьвет, як сьвет вашых айцоў!**

**Царква глядзіць на вас даверліва і з любоўю. Яна багатая вялікаю мінуўшчынай, якая заўсёды ў ёй жывая, і Царква імкнецца да людзкой дасканаласьці ў часе, кіруецца да канчатковага лёсу гісторыі і жыцьця. Царква ёсьць сапраўднай моладасьцяй сьвету. Царква ўладае тым, што творыць моц і чароўнасьць моладзі: здольнасьць да радасьці ў пачынаньні, аддавацца бяз рэшты, аднаўляцца і зноў бегчы да новае перамогі. Узгляньце на Царкву і вы ўбачыце ў ёй аблічча Хрыста, сапраўднага героя, пакорнага і мудрага, прарока праўды і любові, таварыша моладзі. Дык у імя Хрыста вітаем вас, заахвочваем вас і благаславім вас.**

---

*а. Аляксандар Надсон*

# Сьвяты Кірыл Тураўскі

## II
## ДУХОЎНЫ НАСТАЎНІК

У жыцьці сьвятога Кірыла гаворыцца, што будучы яшчэ ў манастыры, ён быў карысным для многіх сваімі павучэньнямі. Аб характары гэтых павучэньняў даюць добрае паняцьце ягоныя асцэтычныя творы. Сяньня ведамыя два такія творы, абодва аб законным жыцьці.[25] Першы з іх называецца «Прыповесьць аб бесклапотным цару».[26] З зьместу відаць, што гэта быў адзін з раньніх твораў Кірыла. У ім адчуваецца пэвен «юнацкі» энтузіязм і таксама аднастароннасьць, не зраўнаважаная яшчэ доўгагадовым дасьведчаньнем. Чытаючы «Прыповесьць», часам маецца ўражаньне, што для аўтара манастырскае жыцьцё было адзіным хрысьціянскім. Кірыл нават прымяняе да манахаў словы Хрыста: «Ойча сьвяты . . . не за ўвесь сьвет малю, але за тых,

[25] Тут разглядаюцца толькі творы, якія без сумніву належаць сьв. Кірылу. Адносна аўтэнтычнасьці ягоных асцэтычных твораў глядзі: L. Goetz, Die Echtheit der Mönchreden des Kiril von Turov, Archiv für Slavische Philologie, Band 27, Berlin 1905, bb. 181—198; таксама Еремин op. cit., бб. 344–349.

[26] Гэты твор называецца таксама «Пісьмо шматгрэшнага мніха Кірыла да Васіля ігумена Пячэрскака аб сьвецкім чалавеку і аб манашастве і аб душы і аб пакаяньні». Імя ігумена Васіля было аднак пэўна устанаўленае пазьнейшымі перапісчыкамі. Гл. Goetz op. cit., бб. 190—191; таксама Еремин op. cit., бб. 344—345.

якіх Ты мне даў» (гл. Ян 17, 9). Вось пачатак «Прыповесьці»:

«У адным горадзе быў вельмі ласкавы цар, добры і літасьцівы, які дбайліва клапоціўся аб сваіх людзях. У адным ён толькі паступаў неразумна: не баючыся ніякіх закалотаў, ён ня меў падрыхтаванай збройнай сілы. Ён ня думаў, каб хто небудзь захацеў паўстаць супраць яго. Меў гэты цар шмат прыяцеляў і радных і дачку на выданьні. Сярод гэтых радных быў адзін мудры і чэсны, які вельмі сумаваў з прычыны бесклапотнасьці цара і шукаў добрай нагоды, каб пагутарыць з ім аб патрэбе быць падрыхтаваным да вайны. Адзін раз раптам паўстаў сярод ночы вялікі закалот у горадзе. Цар сказаў сваім радным: хадзем, паходзім па горадзе і магчыма знойдзем таго, хто узьняў бунт, бо я цяпер у вялікім страху. Яны выйшлі і абыйшлі кругом, але нічога не знайшлі акрамя вялікага забурэньня у цэлым горадзе. Калі ўсе радныя стаялі прыгнобленыя і бездапаможныя, той добры радны узяў цара і ягоную дачку і прывёў іх да вялікай гары, дзе было шмат рознай зброі. Яны заўважылі там сьвятло, якое зьзяла цераз маленькае акенца з пяшчэры. Прыпаўшы да гэтага акенца, яны ўбачылі ўнутры жыльлё, а ў ім мужчыну, які жыў у апошняй беднасьці і быў апрануты ў грубое рызьзё. Пры ім сядзела ягоная жонка і сьпявала яму салодкую песьню. Перад ім стаяў на цьвёрдым камяні нехта высокі і прыгожы і даваў яму есьці і чэрпаў віно. Калі-ж той мужчына прыймаў чашу, дык яго каранавалі пахваламі з вялікай радасьцю. Убачыўшы ўсё гэта, цар прызваў сваіх прыяцеляў і сказаў: «Гляньце, сябры, на чуда, як гэтае беднае і скрытае жыцьцё мае ў сабе больш радасьці, чым наш магутны стан, а нутраныя (цноты) ярчэй за вонкавыя зьзяюць».

Наступна ідзе паясьненьне прыповесьці: «Горад ... гэта людзкое цела ... Цар ёсьць розум, які кіруе целам ... Вялікі ў горадзе закалот азначае нечаканае няшчасьце: хваробу, ці патоп, ці калецтва, ці якую крыўду ад сьвецкіх уладаў ... Гара ёсьць манастыр, а ў ім — духовая зброя: пост, малітва, сьлёзы (жалю за грахі), устрымлівасьць, чысьціня, любоў, пакора, працавітасьць, цярплівасьць... Мужчына, які жыве ў апошняй беднасьці — гэта увесь манашаскі стан ... Жонка, што сядзіць пры ім і сьпявае салодкую песьню, ёсьць неадлучная памяць сьмерці ... А прыгожы мужчына, што стаіць перад ім, ёсьць сам Хрыстос ... Ён корміць і чэрпае віно, гэта значыць дае усім верным Сваё Чыстае Цела дзеля астаўленьня грахоў і Сьвятую Кроў дзеля жыцьця вечнага».

Твор канчаецца пахвалаю законнага жыцьця.

«Прыповесьць аб бесклапотным цару» ёсьць добрым прыкладам алегарычнага мэтаду, ужыванага вельмі часта сьв. Кірылам. Узорам самай прыповесьці напэўна паслужыла падобная прыповесьць аб цару і добрым радным у ведамай гісторыі аб Барлааме і Ёасафе. Гэтая гісторыя, аўтарам якой лічыцца сьв. Ян Дамаскін, цешылася ў сваім часе вялікай папулярнасьцю як на усходзе так і на захадзе і была ведамай сярод усходніх славянаў ужо ў канцы 11-га або найпазьней у пачатку 12-га стагодзьдзя.[27]

---

[27] Вось для параўнаньня скарочаны зьмест прыповесьці з гісторыі аб Барлааме і Ёасафе: «Быў цар, які разумна правіў сваей дзяржавай і ласкава абыходзіўся з людзьмі. Дрэнна толькі было, што ён, ня ведаючы Бога, пакланяўся ідалам. Меў цар аднаго раднага, які быў добрым чалавекам, адароным праўдзіваю вераю ў Бога ... Гэты радны шукаў нагоды, каб зьвярнуць увагу свайго ўладара на тое, што ёсьць добрым. Адзін раз уночы цар сказаў яму: Хадзем, паходзім па горадзе, магчыма убачым нешта павучальнага. Ходзячы так, яны заўважылі прамень сьвятла, які выходзіў праз шчыліну. Прыпаўшы да шчыліны, яны ўбачылі пячэру, а ў ей мужчыну, які жыў у беднасьці, апрануты ў рызьзё ... Пры ім стаяла ягоная жонка і чэрпала віно. Калі-ж мужчына прымаў чашу ў свае рукі, яна сьпявала яму салодкую песьню і цешыла яго танцамі і пахваламі ... Цар сказаў свайму раднаму: «Што гэта за цуда, што наш стан, так багаты ў розныя гонары і выгоды, ніколі ня меў ў сабе столькі радасьці, сколькі мае беднае жыцьцё гэтых прасьцякоў» ... Наканец цар спытаўся свайго раднага, хто былі гэтыя людзі, і пачуў адказ: «Усе тыя, якія аддаюць перавагу вечнаму перад часовым.» (Паводле St. John Damascene, Barlaam and Joasaph, Loeb's Classical Library, London 1953, bb. 229—232).

Першы, хто зьвярнуў увагу на падабенства між прыповесьцямі у гісторыі аб Варлааме і Ёасафе і ў сьв. Кірыла, быў М. И. Сухомлинов у 1858 г. (гл. 2-ое выд. ягонага твору «О литературных сочинениях Кирилла Туровского», Сборник ОРЯС Имп. АН, т. 88, Пецябург СПб. 1908, бб. 327—330).

Перайманьне тэмаў з твораў іншых пісьменьнікаў было звычайным зьявішчам у старажытных часах. У сьв. Кірыла аднак гэтае перайманьне было творчым і ён зьмяніў тэкст у адпаведнасьці да сваіх патрэбаў. Наагул трэба быць асьцярожным у пытаньнях літаратурнага перайманьня, асабліва калі маецца справу з творамі тыпу «Гісторыі аб Барлааме і Ёасафе», пачаткі якой трэба шукаць у старой індыйскай легэндзе аб жыцьці Будды. Перад тым, чым яна атрымала сваю канчатковую хрысьціянскую хворму, гэтая гісторыя перацярпела шмат зьменаў і часткі яе ўвайшлі ў склад народнай творчасьці розных усходніх народаў. Магчыма тады, што сьв. Кірыл знайшоў узор да сваей прыповесьці ў народным пераказе, а не ў пісьмовым творы. Гэта ёсьць між іншым думка украінскага паэта і вучонага І. Франко, які ўважае, што Кірыл ўзяў тэму да сваей прыповесьці з жыдоўскіх крыніцаў, з якімі ён пазнаёміўся не ў пісьмовай хворме, але ў вусным пераказе (гл. ягоны артыкул «Притча про сліпця і хромця», Статьи по Славяноведению под. ред. В. И. Ламанского, Вып. II, СПб. 1906, бб. 137—139).

Пры нагодзе варта зазначыць, што «Гісторыя аб Барлааме і Ёасафе» была шырока ведамай на Бела-

Другі твор сьв. Кірыла аб законным жыцьці завецца «Сказ аб манашаскім стане ад Старога і Новага Запаветаў, паколькі манах носіць у сабе вобраз першага і робіць учынкі другога». Хоць некаторыя алегарычныя (іншасказальныя) вобразы ў «Сказе» ёсьць досыць цяжкімі для зразуменьня, аднак увесь твор мае ў сабе адзнакі сьпелай і зраўнаважанай думкі. Дзеля гэтага ад яго трэба пачынаць разгляд асцэтычнай навукі сьв. Кірыла.

Перадусім, паводле гэтага твору, манах прыносіць сябе ў ахвяру Богу, падобна старазаконнаму ягняці, і таму ён павінен быць чыстым і без заганы: «Згодна з вобразам Старога Запавету, ты прынёс сябе ў ахвяру Богу, падобна як ягняты, якія некалі былі забіваныя ў пустыні. Дык ня будзь каросьлівы, ні кульгавы, ні сьляпы, ні паранены, бо ўсе такія, дзеля сваіх заганаў, аддаюцца на страву сабакам і птушкам». Безумоўна, усе гэтыя вады ёсьць духовыя: кароста — гэта грахі, кульгавасьць — прывязанасьць да рэчаў гэтага сьвету, сьлепата — бескарыснае, самалюбнае жыцьцё.

Ахвяра, будучы дабравольнай, павінна быць поўнай: «Паводле Старога Запавету кожная вольная ахвяра, вялікая ці малая, павінна прынасіцца Богу ад шчырага сэрца. Хай ня будзе хвальшывых ваганьняў у тваіх думках. Ты як сьвечка: маеш сваю волю толькі да царкоўных дзьвярэй, а пасьля не глядзі, што і як з табою зробяць. Ты як вопратка: ведай сябе, пакуль нехта ня возьме цябе ў рукі, а пасьля ня думай нічога нават, калі цябе падзяруць на анучы. Таксама і ты, мей сваю волю да паступленьня ў манастыр, а пасьля пастрыжэньня не захавай ў сваім сэрцы ніякай самаволі, каб не памерці душою, як Ананьня, калі ён пачуў Пятра, які казаў яму: «Нашто захацеў ты спакусіць Духа Сьвятога? Ты салгаў не людзям, а Богу» (гл. Ап. Дз. 5, 3-4). Ня будзь абыякавым да тваіх абяцаньняў, каб на табе ня збыліся словы Пісаньня: «Лепш было не пазнаць праўды, чым, пазнаўшы, адвярнуцца ад яе» (гл. 2 Пятр. 2, 21)».

Матыў мае аснаўное значэньне у ўсіх людзкіх учынках: «Бог сказаў Майсею: «Вывядзі з Ягіпту мой народ Ізраіля, каб, ішоўшы, насьледавалі зямлю, якую я абяцаў Аўрааму. Людзі, пачуўшы гэта ад Аарона, пасьпяшылі ў дарогу: адны ў радасьці Божага абяцаньня; другія таму, што не маглі пераносіць цяжкай работы фараонавай; іншыя, бо ня былі ў сілах рабіць цэглы і будаваць горад; іншыя яшчэ, ня могучы больш цярпець зьдзеку прыганятых».

У падобны спосаб кожны, хто жадае паступіць у манастыр, павінен добра здаваць справу з таго, што яго змусіла выбраць гэты спосаб жыцьця: «Ты-ж, брацe, калі хочаш сьледаваць за Хрыстом, які вядзе цябе да неба, мей на ўвеце, чаму ты ўцякаеш з разумнага Ягіпту[28], якім ёсьць гэты сьвет: ці ты жадаеш абяцанага каралеўства, ці ня хочаш рабіць грэшнай работы д'ябальскай, ці можа ня любіш жыцьцёвых клопатаў, ад якіх няма карысьці, а толькі згуба для душы, ці зноў цябе непакояць жонка і дзеці».[29]

Усе гэтыя матывы для паступленьня ў манастыр ёсьць добрыя і дастатковыя, але найбольшым і найлепшым з іх усіх ёсьць самое жаданьне сьледаваць за Хрыстом: «Ты-ж, манах, раздумоўвай над прыказаньнямі і жыцьцём адзінага Хрыста, які ад нараджэньня аж да крыжа цярпеў няпрыемнасьці, намовы, пагарду і раны дзеля цябе — і падрыхтуйся пераносіць цяжкасьці . . . Памятай, што ў пастрыжэньні тваей галавы ты носіш вобраз цярнёвага вянка Хрыстовага». Крыху далей Кірыл зноў вяртаецца да гэтай тэмы, падчырківаючы адначасова грамадзкі характар манашаскага прызваньня: «Старайся стацца сынам Божым праз Хрыстовыя цярпеньні, каб ня толькі самому збавіцца, але таксама аздаравіць таго, хто папаўся сярод грахоўных разбойнікаў».

Паколькі мучанікі зьяўляюцца найбольш дасканалымі пасьлядоўнікамі Хрыста, дык манашаскае жыцьцё павінна быць прадаўжэньнем мучаніцтва: «Змагайся цярпліва, мужна перанасі ўсялякія нявыгоды, насьледуючы мучанікаў, якія пралілі сваю кроў за Хрыста».[30]

---

русі. Яна была надрукаваная на беларуску ў Кутэінскім манастыры ў Оршы ў 1637 г. Часткі «Гісторыі» ўвайшлі ў беларускую народную творчасьць, як духоўныя песьні «Аб старцу Арлаване і Алісахвею», або «Аб царэвічу Алісахвею». Тры песьні аб Алісахвею надрукаваў Е. Раманаў у сваім «Беларускім Зборніку». (Вып. 5. Віцебск 1891, бб. 371—377).

[28] Выхад жыдоў з Ягіпту, як вобраз паступленьня ў манастыр (г. зн. выхад з гэтага сьвету), ёсьць ведамым у усходняй духовай літаратуры. Вось прыклад з «Лесьцвіцы» святога Яна Лесьцьвеньніка (памёр у 649 г.): «Калі мы хочам выйсьці з Ягіпту і ўцячы ад фараона, мы павінны мець Майсея, — нашага пасьрэдніка перад Богам, — які, стоячы паміж дзеяньнем і кантэмпляцыяй, уздымае свае рукі, каб мы, пад яго праваднiцтвам, маглі перайсьці цераз мора грахоў і прагнаць Амаліка нашых дрэнных пажаданьняў.» (Гл. Migne, Patr. Graeca, том 88, б. 635—636).

[29] Выглядае, што ў тым часе ня лічылася нечым надзвычайным, калі нехта ўступаў у манастыр, пакінуўшы жонку і дзяцей. Сьв. Тодар Студыт (759—826) у адным з сваіх павучэньняў для манахаў кажа: «Ціж некаторыя з вас не пакінулі бацькоў, іншыя — братоў, іншыя — жонак і дзяцей, іншыя — хаты, іншыя — палі, а ўсе апошнія — і гэта ёсьць найбольш цяжкім — адракліся сваей волі?». (гл. Migne, Patr. Gr., т. 99, б. 673).

[30] Сьв. Апанас Александрыйскі (296—373) расказвае, што сьв. Антон Вялікі вельмі хацеў мучаніцкай сьмерці і дзеля гэтага нават у часе апошняга вялі-

Паколькі манах прыносіць сябе ў ахвяру Богу і зьяўляецца пасьлядоўнікам Хрыста, дык пастрыжэньне ў манахі ёсьць нечым вялікім і мае вартасьць чуць-ні сьвятой тайны. Вось як напамінае аб гэтым Кірыл свайго духоўнага сына: «Памятай, што ты чуў пры тваім пастрыжэньні: Вось Хрыстос тут нябачана стаіць. Дык глядзі, каму ты даваў абяцаньні.[31] Падумай толькі: ці-ж ты ня быў тады акружаны агнём страху Божага больш чым гара Сінайская; і ці-ж ня глыбей, чым на Дошках Закону, былі вырытыя Словам Божым абяцаньні твае на цялесных дошках твайго сэрца? Уважай, каб ты не разьбіў іх тваей дрэннай вераю!»

Сьледаваць за Хрыстом ня ёсьць лёгка: чалавек без праваднікá можа заблудіцца, як жыды, якія асталіся на некі час без Майсея, калі той узыйшоў на гару, каб гутарыць з Богам: «Майсей, загадаўшы усім прабываць у чысьціні, узыйшоў на гару, куды сам Бог зыйшоў, акружыўшы гару агнём . . . І што-ж сталася у міжчасе? Усе цуды, якія яны бачылі, ня збавілі слабавольных людзей ад згубы: яны прыйшлі да Аарона і пачалі прымушаць яго, каб даў ім бога; а калі іхняя воля была выкананая, дык селі есьці і піць, аж пакуль агонь не загарэўся між імі і многія згінулі ад гневу Божага. І ўсе яны згінулі-бы, калі-б Майсей ня стаў перад Ім у пакоры, просячы, каб Ён адвярнуў свой гнеў і ня зьнішчыў іх, пакуль ня будзе зробленая арка запавету». (Гл. Выхад разьдз. 32; таксама Пс. 105, 23-24).

Манах, каб яго не спаткаў падобны лёс, павінен знайсьці сабе духоўнага настаўніка — свайго Майсея — якому ён мусіць поўнасьцю даверыцца: «Пастарайся знайсьці мужа, які мае ў сабе Духа Хрыстовага, упрыгожанага цнотамі, да якога ўсе маюць пашану і які ўсім сваім жыцьцём любіць Госпада больш за ўсё, ёсьць паслухмяны ігумену, ня мае злосьці да іншых братоў, а таксама ведае добра сьвятыя пісаньні, пры помачы якіх ён можа накіроўваць да Бога тых, якія шукаюць неба. Такому передай сябе, як Халеб Ісусу (Навіну), адсекшы сваю волю,[32] каб быць табе чыстай сасудзінай, якая зьберагае ўсё добрае, што ў яе ўліваецца, аж пакуль ня станешся сьвятыняй Сьвятой Тройцы, паводле сказанага: Я і Айцец мой прыдзем і жыльлё зробім у табе (гл. Ян 14, 23)».[33]

Кірыл добра ведаў усе — добрыя і заганныя — бакі манастырскага жыцьця. У ягоных творах можна часта спаткаць перасьцярогі супроць манахаў, якія «жывуць у манастыры бяз страху Божага, і думаюць толькі аб сваім жываце і аб вопратцы», а таксама «любяць сваё цела, часта мяняюць вопраткі, пад прэтэкстам сьвятаў ладзяць піры з папойкамі, зацягваюць зборы да позьняй пары і стараюцца мець сваю волю над зьверхнікамі». Замест гэтага ён дае сваім духоўным сыном рады падобныя да вось гэтай: «Будзь слаўны ня сьветлай вопраткай, але добрымі учынкамі»; або: «Дзерава хваляць не за рост, але за плады. Таксама не манастыр робіць слаўнымі манахаў, але добрыя цноты манахаў робяць слаўным манастыр».

Гэтая апошняя прыгожая думка знайходзіцца у «Прыповесьці аб бясклапотным цару», дзе, між іншым, ёсьць шмат цікавых выказаньняў адносна практычнай стараны жыцьця ў манастыры.

---

кага праследу хрысьціянаў у 311 г. ён пакінуў пустыню і прыйшоў у Александрыю. Калі аднак ягонае жаданьне ня споўнілася, «ён вярнуўся ў сваю келлю і там кожны дзень быў мучанікам свайго сумленьня, цэлы час змагаючыся за веру.» (гл. St. Athanasius, Life of St. Anthony, transl. R. T. Mayer, London 1950, б. 60). Такім чынам думка, што манашскае жыцьцё ёсьць прадаўжэньнем мучаніцтва, ёсьць вельмі старая. Грэцкае слова «мартыс» мае два значэньні: мучанік і сьведка. Мучанікі сваей крывёю сьведчаць аб іхняй непахіснай веры у Хрыста. Манахі сьведчаць аб той самай веры ўсім спосабам свайго жыцьця.

[31] Вось што гаворыць сьв. Хвядос Пячэрскі (пам. 1074 г.): «Успомнім наш першы ўваход . . . Ці-ж мы тады, стоячы перад сьвятымі дзьвярамі, не давалі абацаньняў перад відзімымі і нявідзімымі сьведкамі, быццам у дзень суду, і нават Бога самога прызывалі, кажучы: ,Вось Хрыстос тут нябачана стаіць'? Дык памятай, каму ты даваў абяцаньні! Ніхто цябе да гэтага ня змушаў.» (гл. И. А. Евсеев, Преподобный Феодосий Печерский и его поучения; у »Памятники древнерусской церковноучительной литературы», вып. I, СПб. ,1894, бб. 36—37). Вывучаць, ці і насколькі тут быў уплыў сьв. Хвядоса на сьв. Кірыла, выходзіць за рамкі гэтага артыкулу, хоць няма сумліву, што сьв. Кірыл быў знаёмы з творамі гэтага вялікага украінскага сьвятога. У кожным выпадку выказваньні Кірыла і Хвядоса паказваюць, як вялікае значэньне яны прыдавалі чыну манашскага пастрыжэньня.

[32] Выражэньне «адсячэньне собскай волі» спатыкаецца у сьв. Тодара Студыта.

[33] Сьвяты Васіль Вялікі (330—379) апісвае такім чынам выбар духоўнага настаўніка: «З вялікай развагай і асьцярожнасьцю пастарайся знайсьці чалавека (манаха), які быў-бы для цябе пэўным праваднікам у гэтым спосабе жыцьця і які ўмее кіраваць тымі, што імкнуцца да Бога. Ён павінен быць асобаю ўпрыгожанай цнотамі і сваімі ўчынкамі даваць доказы любові Бога, а таксама ведаць Сьвятыя Пісаньні. Ён павінен любіць адзіноту і ня любіць багацьцяў, быць у старане ад усякіх спрэчак, ціхі, дарагі Богу, прыяцель беднасьці, спакойны, непамятлівы крыўдаў, а таксама даваць добры прыклад для ўсіх вакол яго. Ён павінен быць бяз ніякай пыхі ці гордасьці, недаступны для льсьцівых пахвалаў, мець цьвёрды характар і ставіць Бога вышэй за ўсё. Калі ты знойдзеш такога чалавека, дык аддайся яму поўнасьцю, здушыўшы і выкінуўшы з сябе найменьшы сьлед собскай волі ,каб стацца табе чыстай сасудзінай, што зьберагае ўсё, што туды ўкладаецца, дзеля тваей большай пахвалы і славы.» (гл. Migne, Patr. Graeca, т. 31, б. 631—32).

Так, паводле гэтага твору, законнае жыцьцё — гэта перадусім безустанная хвала Бога. У паясьненьні прыповесьці Кірыл кажа, што зара, якая зьзяе з пяшчэры, ёсьць «Багахвальная ахвяра, нязмоўкнае псаломскае пяяньне алілуя; бо гаворыцца: Уночы ўздыміце рукі вашыя да сьвятых і благаслаўіце Госпада (гл. Пс. 133, 2); і яшчэ: Я ўстаў у поўнач, каб славіць Цябе (Пс. 118, 62)».

Жыцьцё ў манастыры ёсьць уладжанае «паводле апостальскага абычаю: ніхто ня мае сваей волі, але ўсё ёсьць агульнае.[34] Усе там ёсьць пад адным ігуменам, злучаныя з ім духоўнымі жыламі, як члены цела з галавою».

Беднасьць зьяўляецца адной з галоўных адзнакаў манаха: «Усякая багатая вопратка і цялесныя ўпрыгожаньні ёсьць чужымі для ігумена і для ўсяго манашаскага стану. Бо Хрыстос кажа, што тыя, якія носяць мягкія вопраткі, жывуць у царскіх харомах (гл. Мт. 11, 8). Затое манахі павінны быць апранутыя ў чысьціню, падпяразаныя праўдаю і упрыгожаныя пакораю».

Іншай неадлучнай спадарожніцай манаха ёсьць памяць аб сьмерці. Яна ёсьць ягонай жонкай, «якая сьпявае салодкую песьню: голас радасьці і вясельля ў жыльлях праведнікаў (гл. Пс. 117, 15). Бо праведнікі вечна жывуць і іхняя нагарода ад Госпада (гл. Мудр. Сал. 5, 16). Сьмерць праведніку — супакой (гл. там-жа 3, 3). Багацтвы прайходзяць — не аддавайце сэрца вашага ім (гл. Пс. 65, 11)».

Наагул жыцьцё манаха — гэта сталы высілак і праца над сабой: «(некаторыя) . . . даўшы манастырскія абяцаньні, хочуць дасягнуць сьвятасьці, не стараючыся перамагчы сваіх слабасьцяў; хоць яны і чытаюць сьвятыя пісаньні, аднак думаюць, што Бог іх збавіць без высілку з іхняй стараны. Але мы не разумеем Паўла, які кажа: Без высілку ніхто ня можа атрымаць нагароды.[35] Тыя, што сьпяць, ня могуць перамагчы, а лянівыя ня могуць быць збаўленымі». Крыху далей Кірыл кажа так: «Маючы такія абяцаньні, манахі, змагайцеся . . . Насьледуйце высілкі сьвятых айцоў і старайцеся пераўзыйсьці адзін другога ў плачу (за грахі), у трываньні, у малітвах, у паслугах . . . Уздыміце крыльлі вашага розуму і паляцім разам далёка ад згубнага граху. Возьмем страву з кнігаў сьвятых і скажам разам з Давідам: «Як салодкія паднябеньню майму словы Твае, яны для вуснаў маіх салодшыя чым мёд.» (Гл. Пс. 118, 103).

Можа выдацца дзіўным, што, паставіўшы такія высокія вымаганьні для манахаў, Кірыл уважаў законнае жыцьцё лёгкім: «Забудзься аб земскіх рэчах і прымай лёгкі хлеб, як манну, з рукі кельляра і еш». Напэўна ён хацеў сказаць, што манах, даўшы абяцаньне паслушэнства, гэтым самым асвабадзіўся ад клопатаў штодзённага жыцьця.

Сьвяты Кірыл шматразова напамінаў сваіх вучняў аб патрэбе пакоры. З другой стараны ён уважаў, што манахам, верным свайму прызваньню, належыцца ад іншых пашана: «Нутраныя цноты сьвятых манахаў зьзяюць ясьней, чым сьвецкая слава, і дзеля гэтага магутныя гэтага сьвету схіляюць свае галовы перад імі і аддаюць ім пашану, якая належыцца тым, што дагадзілі Богу».

Вось галоўныя думкі сьв. Кірыла аб законным жыцьці. Прыблізна сто гадоў раней вялікі украінскі сьвяты, Хвядос Пячэрскі, даваў кароткія павучэньні на розныя аддзельныя тэмы для манахаў Кіева- Пячэрскай Лаўры, дзе ён быў першым ігуменам. Некалькі гэтых павучэньняў захавалася да сяньняшняга дня і яны захапляюць чытача сваей прастатой і сапраўды евангельскім духам, якім яны прасякнуты. У сьвятога Кірыла Тураўскага назіраецца нешта іншае. Тут ужо не кароткія павучэньні на паасобныя тэмы, але спроба — першая ў усходнеславянскай рэлігійнай літаратуры — сыстэматычнага падручніка манастырскай асцэтыкі.

Асцэтычныя творы сьв. Кірыла сьведчаць вымоўна аб глыбокай духовасьці аўтара. Сяньня шмат каму ягоны падыход можа выдацца збыт срогім, асабліва ягонае вымаганьне безумоўнага паслушэнства, «адсячэньня» собскай волі. Можна таксама сказаць, што пачуцьцё страху Божага ў Кірыла часта пераважае над пачуцьцём любові. У гэтым аднак ён быў толькі пасьлядоўнікам традыцыйнай бізантыйскай духовасьці, як можна пераканацца, параўнаўшы ягоныя творы з творамі вялікіх грэцкіх асцэтычных пісьменьнікаў. Асабліва шмат Кірыл заўдзячае сьв. Тодару Студыту, чые манастырскія правілы былі ў тым часе прынятыя ўсімі усходнеславянскімі манастырамі. Гэтыя правілы сьв. Тодар напісаў у пачатку 9-га стаг. для Студыйскага манастыра ў Канстантынопалі, дзе ён быў ігуменам. Яны адзначаліся якраз вымаганьнямі срогай, хоць разумнай, дысцыпліны і безумоўнага паслушэнства. Акрамя Тодара Студыта, сярод усходніх славянаў у канцы 11-га ці пачатку 12-га стагодзьдзяў былі ведамыя таксама асцэтычныя творы сьв. Васіля Вялікага і Яна Лесьцьвеньніка. Дык ня дзіва, што творы гэтых трох вялікіх усходніх духоўных настаўнікаў мелі, пасрэдна ці беспасрэдна, вялікі ўплыў на сьв. Кірыла Тураўскага.

---

[34] Сьвяты Кірыл мае тут напэўна на ўвеце Ап. Дз. 4, 32.

[35] Такога сказу няма у сьв. Паўла. Кірыл тут скарыстаў 2 Цім. 2, 5, зьмяняючы тэкст, каб надаць жаданае значэньне.

Сам сьв. Кірыл ня мае прэтэнсіяў да арыгінальнасьці, як ён прызнаецца ў канцы свайго «Сказу аб манашаскім стане»: «Гэтыя словы я напісаў не ад сябе, але з кнігаў. А калі хто інакш вытлумачыць, дык спрачацца ня будзем. Мы-ж не жняцы, але коласазьбірацелі, і ня хітрыя ў кнігах. Мы грубыя слугі і больш за ўсё патрабуем вашых айцоўскіг малітваў у Хрысьце Ісусе Госпадзе Нашым, якому хай будзе слава разам з Айцом і Сьвятым Духам цяпер і заўсёды і на векі вечныя. Амінь».

Ня гледзячы аднак на гэтыя пакорныя запярэчаньні, асцэтычныя творы сьв. Кірыла, асабліва ягоны «Сказ аб манашаскім жыцьці», маюць дастаткова арыгінальнасьці і цікавасьці, каб запэўніць іхняму аўтару пачэснае месца сярод усходніх духовых пісьменьнікаў. Яны ня страцілі сваей вартасьці да сяньняшняга дня і могуць быць карыснымі асабліва для тых, якія, паводле словаў сьвятога, «шукаюць неба».

(Далей будзе)

## *Хрыстос і грэшны сьвет*

*Хрыстос прыйшоў сьвет збавіць ад граху —*
*Ад вечнае загубы,*
*І што-ж Ён чыніць на шляху,*
*Каб ратаваць народ свой любы?*

*У думах аб крыжы,*
*Што быў Яму Айцом празначан,*
*Што на жыцьця мяжы*
*Яму суліў народ неўдзячан?*

*Бічуючы Хрыста аж да крыві,*
*Ўскладае на Яго народ няверны,*
*Як на Цара, аздобу галавы —*
*Шмат церняў.*

*Вядуць Цара — Яго —*
*На ганьбу і на мукі —*
*На сьмерць Тварца свайго*
*Сярод прынукі.*

*«На крыж Хрыста, не Цар наш — Ён!»*
*Крычыць народ так да Пілата:*
*«Сягодня мы Яго заб'ём,*
*А заўтра будзе сьвята!»*

*У Назарэце жыў і працаваў,*
*У Палестыне вандраваў:*
*Народ вучыў,*
*Усім дабро тварыў —*
*На крыж павесілі-прыбілі*
*І гэтак адплацілі —*
*Каму?*
*Цару свайму —*
*Ў нягодную часіну —*
*АЙЦА СЬВЯТОГА СЫНУ!..*
*Вялікі Божы Мучанік ўмірае —*
*Ад пекла нас збаўляе.*

*«Ага, Ты аб другіх заўсёды дбаў —*
*Цяпер зыйдзі·Ты з крыжа —*
*Сябе Самога збаў —*
*Твая тут сіла хай сьмерць скрыша!»*

*Із крыжа ня зыйшоў Хрыстос*
*На словы гэткія блюзьнерчы:*
*Затое за тры дні ў в а с к р о с —*
*Так збавіў нас ад сьмерці.*

*

*О, браце мой,*
*Ідзі з любоўю за Сьвятлом —*
*Нясі крыж свой! —*
*Паўстанеш з гробу ты з Хрыстом*
*І з перамогаю над цемрай злой.*

Д-р Іоан Т а р а с э в і ч

### ДУМКІ З КНІЖАК

Бог ёсьць *паэт* неба і зямлі.

*Атэізм,* як соль, сьцеражэ, каб не псавалася вера ў Бога. Хто ня ведае, што такое *«нябытніштo»,* той ня цэніць і Бога.

*Біблія* — ёсьць адзіная кніга, якая ясна кажа, адкуль мы, людзі, прыйшлі, куды мы ідзём і дзеля каго мы існуем.

*

Паканай усё, што магчыма, не бяручы *зброі* ў рукі! (Ганді).

*

*Культура* — гэта чалавечы труд дзеля *любові.*

Ня прымусовы труд, які ёсьць пракляцьцем, але труд *свабодны,* які ёсьць багаславенствам. Бязсэнсу і бязплодны натугі, калі хто строіць жыцьцё ў ідэях матэр'ялізму і інтарэсу. Дый ніякая *ідэя* ня можа быць матэр'ялістычнай, яна заўсёды духовая — толькі кірунак яе можа быць ці да праўды, ці да хлусьні.

Дарэмна прабуюць стварыць культуру *прымусам* і ненавісьцяй: яна — дачка любові і свабоды.

*а. Ал. Надсон*

# Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства 15-га стагодзьдзя

Ад часу гэтак званага «Хросту Літвы» ў 1387 г., Каталіцкая Рымская Царква сталася важным чыньнікам у жыцьці Вялікага Княства Літоўскага. Спачатку гэта беспасрэдна датычыла этнічных летувісаў, аднак памаленьку ўплыў каталіцызму пашырыўся і сярод беларусаў, асабліва ў асяродзьдзі блізкім да вялікага князя. Такім чынам ужо ў палове XV-га стаг. існавала невялікая, але ўплывовая, група беларусаў-каталікоў, не гаворачы аб зьбеларушчаных летувіскіх магнатах. Да гэтага часу трэба аднесьці спробы гэтай групы стварыць сваю рэлігійную літаратуру. Паяўляюцца на беларускай мове такія творы, як «Мука Госпада нашага Ісуса Хрыста», «Повесьць аб трох каралёх», «Жыцьцё Аляксея чалавека Божага», «Повесьць аб рыцару Таудале (Тундалю)» і іншыя. Гэта былі пераважна пераклады з лацінскай ці чэскай моваў — рэдка з польскай, — некаторы з іх аднак ня былі пазбаўленыя пэўнай сваеасабліваcьці.

Адным з самых цікавых помнікаў беларускага каталіцкага пісьменства XV-га стаг. зьяўляецца без сумніву пераклад лацінскай імшы ў чэсьць Найсьвяцейшай Маці Божай. Тэкст перакладу быў часткова выданы ў 1910 г. А. Сабалеўскім з рукапісу з канца XV-га ці пачатку XVI-га стаг.[1] Рукапіс гэты знайходзіўся перад першай сусьветнай вайною у Маскоўскай Сынадальнай Біблятэцы.

У канцы тэксту імшы гаворыцца: «то есть конец мши Маткі Божіи; только тые слова писаны што каплан гласом говорить на мши, што в таиници говорить того нет». Такім чынам выглядае, што пераклад быў зроблены для ўжытку сьвецкіх вернікаў, якія не разумелі лацінскай мовы.

Сабалеўскі уважае, што імша была перакладзеная на беларускую мову не з лацінскага, але з чэскага арыгіналу, і то даволі старога (перад XIV-тым стаг.). Гэта ёсьць вельмі магчыма, бо беларусы ў тым часе падтрымоўвалі з чэхамі — якія ўжо мелі поўны пераклад Біблії і імшы, — цесныя культурныя сувязі. Тэкст сымбалю веры ў беларускім перакладзе ёсьць, паводле Сабалеўскага, блізкім да тэксту ў харвацкіх глаголічных літургічных кнігах.

Беларускасьць твору не падлягае ніякаму сумніву.[2] Трэба аднак заўважыць, што перакладчык стараўся зрабіць сваю мову блізкай да мовы царкоўна-славянскіх літургічных тэкстаў. Дзеля гэтага у галіне слоўніка і правапісу тут назіраецца большы кансэрватызм, чым у іншых літаратурных беларускіх помніках таго часу. Відавочныя ёсьць таксама ваганьні аўтара адносна ўжываньня некаторых словаў. Так напрыклад сьвятар у яго часам называецца каплан, а часам поп. Таксама прыслужнік ёсьць раз жак, а раз дзяк, а амінь нярэдка пераходзіць у амен. Затое аўтар усюды пасьлядоўна ужывае назоў «Ісус Хрыстос».

Адначасова з імшою Сабалеўскі апублікаваў урывак з беларускага перакладу «Песьні Песьняў», узятага з тога самага рукапісу. Гэты цікавы дакумант паказвае, што спробы пералажыць Біблію на беларускую мову былі робленыя ўжо перад Скарынаю.[3] Сабалеўскі робіць прыпушчэньне, што чацьвёртая жонка Ягайлы, беларуска Сонька Гальшанская, на чый загад быў зроблены ў 1455 г. з чэскага польскі пераклад Біблії (г. зв. Біблія кралевы Сафіі, або Біблія Шарошпатацкая), паклапацілася таксама і аб перакладзе сьв. Пісьма на сваю родную мову. Ці ня можна таксама дапусьціць што і беларускі пераклад імшы быў зроблены з ейнага пачыну?

Сяньня публікацыя Сабалеўскага зьяўляецца бібліяграфічнай рэдкасьцю, не заўсёды даступнай нават для спэцыялістаў. Дзеля гэтага, бяручы пад увагу цэннасьць дакумэнтаў, передрукоўваюцца тут выданыя ім урыўкі імшы і Песьні Песьняў. Прыходзіцца толькі шкадаваць, што гэты вучоны ня выдаў у

---

[1] *А. И.Соболевский*, Старшие переводы русских католиков. Сборник Отд. Русск. Яз. и Слов. Имп. Ак. Наук, т. 88, № 3, Пецярбург 1910, бб. 193-203.

[2] Паводле Карскага, які пазнаёміўся з рукапісам яшчэ ў 1897 г., імша была напісана на «западнорусскам наречии». (гл. ягоны артыкул «Западнорусский Сборник XV в.», перадрук у: Е. Ф. Карский, Труды по белорусскому и другим славянским языкам, Масква 1962, б. 268, заўвагі). Так называў гэты вучоны беларускую мову.

[3] Адносна «Песьні Песьняў» Карскі кажа, што яна была «в переводе близком к Скорининскому, но не тождественном с ним». (гл. op. cit., loc. cit.)

. Паводле Уладзімірава, гэты пераклад быў зроблены не беспасрэдна з Біблії, але з некага чэскага твору з усімі ягонымі дадаткамі і дапаўненьнямі. І сапраўды прыведзеныя ім урыўкі пачынаюцца такім чынам: «Глас невесты душа к' любімому женіху Христу . . . Целуи мя целованіем . . . ». Гэты вучоны ўважае таксама, што пераклад быў зроблены «прадаўжальнікамі справы Скарыны» (гл. П. В. Владимиров, Доктор Франциск Скорина, Кіеў 1888, бб. 238-39 і 340-342). Сабалеўскі з другой стараны адносіць яго да паловы 15-га стаг. (Соболевскій, op. cit. б. 198).




*Мапа Вялікага Княства Літоўскага і Каралевства Прускага з XVIII-га стаг.*
(З калекцыі школы сьв. Кірыла Тураўскага у Лёндане)

сваім часе поўных тэкстаў прыведзеных твораў.

Дзеля тэхнічных прычынаў «вялікі юс» быў усюды заменены праз *у*, а «яць» праз *е*. Былі прапушчаныя ўсе цьвёрдыя знакі ў канцы словаў і разчыненыя «цітлы», а таксама зробленыя іншыя нязначныя зьмены, не нарушаючы аднак тэксту і пунктуацыі.

## I) ВЫНЯТКІ З БЕЛАРУСКАГА ПЕРЕКЛАДУ ІМШЫ

### *Как ся м'ша четъ римским обычаем матце божіей*

Напервеи коли оуже каплан оубравшися приступив къалтарю и пережегнавшися. покляккнеть а речеть. Каплан. Во имя отца и сына и святаго духа. Помочь наша въ имя господне. а дале за ним Жак речеть. сътворившаго небо и землю. Каплан вниду к олтарю божію Жак кь богу веселяшемоу юность мою. Каплан. исповедаюся богу отцю и сыну и святому духу и святой маріи матце божіеи. и святому петру и святому павлу. и всем святым исповедам вси мои грехи великіи и малыи. которыи есми съгрешил от мое пороженія. аж до сих часов. всего ся каю и винен грехи моих грех мои великіи грехи то бьючися правою рукою в' перси а говорить молим господа бога да ми простит грехи мои. и да мя помилоует и в' животе вечном. Дьяк речеть (амен)[4] аминь милостив тобе будеть господь бог отче духовныи. отпустить ти вси грехи твои. и приведеть тя в' живот вечныи. Каплан речеть амен. Дьяк речеть. исповедь туюж. а потом Каплан речеть милостив буди вам господь бог духовная братіе отпустить вам вси грехи ваши. и приведеть вас в' живот вечныи. Жак речеть аминь Поп речеть въ отданіе съгрешеніи и отпушеніе грехов ваших. подаи вам всемогіи бог. Жак речеть аминь. Поп рече боже ты обратиш ны и живиши ны Жак речеть и людіе твои. возвеселяться о тобе. Поп речеть. яви нам господи милость твою. Жак и спасеніе твое даиже нам. Поп речеть. господи услыши молитву мою. Жак вопль мои к' тобе да пріидеть. Поп речеть. господь с вами. Жак речеть и з духом твоим затым каплан встанеть а сложить руки голову схилив говорить. отими от нас. помолим тя господи вся. беззаконія наша. да к святая святым чистыми достоини внити можем. христом господем нашим амень. А далеи поступая к олтарю говорить молим тя господи да достоин есьм святых твоих ихже моци[5] овде суть и всех святых твоих отпустити рачь вси грехи мои аминь.

Поп став пред олтарем въздвиг руки речеть верую въ единого бога отца всемогучего. творца небу и земли. видимых всех и невидимых единого господа нашего ісуса хри-

---

[4] Слова ў дужках было зачыркнута ў рукапісе (заўвага Сабалеўскага).

[5] Напэўна павінна бышць «мощи».

ста сына божія. единародного от отца рожeного преже всех век. бог от бога свет от света бог истинна от бога истинна. рожен а не сьтворен. единосущна отца имже вся быша. иже нас ради человек. и нашего спасения ради сшед с небес. и въплотился есть от духа свята и из маріи девы въчеловечился. к' крижоу пригвожден оубо за нас. при понтіиском пилате. моучен и погребен бысть. и сниде в ад. и в третіи день въстал от мертвых. и в'зыде на небо и седить одесную бога отца всемогучего. и оттудоу паки прідет съ славою судити живым и мертвым и его царствию не будеть конца. и духа свята господа животворящаго. исходячаго от отца и сына. и иже съ отцем и сыном равность поклоняеться и славиться славою. иже глаголал есть во пророцех. едину святу съборную апостольскую церковь. исповедаю едино крещеніе въ оставленіе грехом цекаюць въскресенія мертвым. и живота будучаго века аминь.

Подаи нам рабом твоим и рабыням просим господи боже нашь вечныи мысли и телу здравіем радоватися. и преславным блаженныя марія всегда девы ходатаиством. от настоящее избавитися печали и вечнаго нам оуживати веселія подаи господем нашим ісус христом сыном твоим которыи з богом отцем живеть и цесарствуеть вь единстве духа святаго бог въ вси веки веком.

Поп речеть поднес рукі. Во истинну достоино и праведно есть право и святительно и спасительно нам бе овде и везде хвалы въздавати господи святыи отче всемогіи вечныи боже. и тебе в часть блаженное маріи всегда девы хвалити и благословити и подековати яже единочадыи сын твои святаго духа осененіем и девьства славою пребываючи. свет вечныи всему миру излія ісус христа господа нашего им'же величество твое хвалять. ангелы поклоняються господствія трепещуть власти. небеса и небесныя силы. и блаженныи серафим с обчим радованіем служать. с нимиж и наши гласы совокупити повелиши. молим тя прилежным исповеданием говорячи свят свят свят господь бог саваоф. полна суть небеса и земля славы твоея осанна во вышних благословен иже пріиде во имя господне осанна в вышних.

II) ВЫНЯТАК З ПЕСЬНІ ПЕСЬНЯЎ

Целуи мя целованіем уст своих, бо лепши уст перси твои над вином, благовоннеиши нижли ароматы мастіи налепших. Олеи изліанныи имя твое; прото молодци миловали суть тебе. Тягни мя по собе, побегнем в добровонностех мастеи твоих. Увел мя есть царь до винниць своих; радоватися будем, а веселитися в тобе. Памятливыи будучи персеи твоих над вино: правии милують тебе.

Чорна есьмь, але красна, дцери иерусалимскіх, яко станы кедра, якоже то кожа соломонова. Не дбаите мя знаменати, яко смеда есьм, бо мя есть солнце на берве променило. Сынове матери моее боіовали суть против мене; поставили мя суть сторожем у винницах. Винници моее не остерегла есмь.

# Пачатак «нашаніўскага» году — 14. IX. 1906

Гэты дзень мне памятны. Пару дзён перад тым я прышоў пехатою з аднэй знаёмай цёткай у Вільню з Гальшан (км. каля 80-ці). Меў ужо скончаную гарадзкую школу ў Ашмяне і шукаў магчымасьці вучыцца далей. Мяне неяк уладзіла цётка Антаніна Савіцкая (гэта ўжо родная цётка — сястра маей маткі) на так назыв. «кватэры» для хлапцоў. — Дык вось іду я 14 верасьня з вуліцы Татарскае на Віленскую і чую выкрыкі малышоў — газэтчыкаў: «НАША ДОЛЯ» — «У простай мове», «По простэму! . . »

Хлапчукі леталі як маланка, крычалі як на пажар, а публіка затрымлівалася — вырывалі «Нашую Долю» ім з рук. — Толькі чувалася гутарка віленскае публікі: «В хлопскей мове!», «Давай ту, давай!»

Але дзе там?! Ужо хлапцы аставаліся самі з пустымі рукамі . . . Пакуль я — правінцыяльны разявяка — зьмеркаваўся, ужо немагчыма было ані ў той дзень, ані на вуліцы ўбачыць, ані дзе знайсьці. — Так «н а ш а я д о л я», якая мне была даступнай ад пачатку майго жыцьця ў сваей усей горкасьці, стала мне недаступна ў друкаваным слове. Колькі разоў я ні пытаўся, ні шукаў у газэтных кіёсках, нігдзе «Нашае Долі» ня мог знайсьці!

Але той дзень і здарэньне асталося мне памятным аж да сяньня: была сьвежая раніца, сонца праглядвала між праходзячых хмараў, было цёпла і прыемна. Публіка люднае вуліцы Віленскае, дзе крыжавалася з Праспэктам, была настроена весела і аж здратвела ад такое неспадзеванае весткі, што зьявілася газэта ў «нашай мове», ці — як казалі («по віленскему») — «простай мове!», а іншыя — «по нашэму».

Вільню апісывалі і ўважалі за горад польска-жыдоўскі, але беларуская мова была ведамай усім, бо наўкол, асабліва па ашмянскім

*Я. Савіцкі*

# Атэісты аб Хрысьце

«Усякая рэлігія супрацілегла навуцы. Рэлігійныя вераваньні — зьява гістарычна пераходная».

«Найбуйнешым міжнародным цэнтрам рэакцыі з'яўляецца *Ватыкан»*. (Савецкая Энцыкляпэдыя з 1953 г.).

Адным словам, усякая рэлігія, вера і цэрквы — гэта (паводле савецкай «навукі») рэакцыя, цемната, ашуканства і прыгнёт клясаў рабочых і г. д.

Хрыста адразу па рэвалюцыі 1917 г. яны аб'яўлялі камуністым, а пасьля іхняя «навука» і нават акадэмікі казалі, што Хрыстос ня існаваў, што Ён толькі-легенда, міф і хімэра. Гэтага трымаліся ўсякія агітатары і лектары.

Аж вось неспадзявана павеяў іншы вецер. У № 2 з лютага 1966 г. часапісу «Навука і Рэлігія» чытаем, што такая прапаганда супраць Рэлігіі і Хрыста «зрабіла дрэнную прыслугу для атэізму» і «зьвярнулася супраць» атэізму. Значыць, атэісты дрэнна плянавалі, што ня шукалі і ня прыкладалі «асоблівых высілкаў розуму, пошукаў тонкіх і глыбокіх аргумантаў для крытыкі рэлігіі». (Акадэмік С. Д. Сказкін). Кажа, што ўсё рабілася «павярхоўна».

*

Значыць, нельга так лёгка абыходзіць труднасьцяў у барацьбе рэлігійнай і ужо нельга цьвярдзіць, што «Хрыстос — легенда»!



і лідскім шляху, — аж да самага гораду нашыя «простыя» людзі гаманілі па просту: чуваліся выкрыкі на вуліцах, гутаркі ў крамах, шэпты ў касьцёлах . . . А ўжо-ж на «Казюка» (кермаш на Лукішках 4, 5 і 6 сакавіка) беларуска мова дамінавала і на самым рынку і разыходзілася з народам плывучы туды і адплываючы. Самыя дыстынгаваныя паненкі верталіся ад «Казюка» абвешаныя вянкамі смаргонскіх абараначак.

І што, дзіўнае — ў прадмесьцях убок Каліварыі і ў кірунку Вількоміра — на узгор'і Шышкіне — па аднасельлях і вёсачках — гаварылі па беларуску! Але ўсё гэта было ў эпоху, калі распачынаўся Нашаніўскі Год, якога ю б і л е й успамінаем. —

Пасьля таго памятнага 1-га нумару далейшыя пяць былі сканфіскаваныя, аднак «НАША ДОЛЯ» — гэта было з е р н е, з якога — міма самага жорстакага прасьледу — вырасла «НАША НІВА» і калі пачалося сапраўнае адраджэньне БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ.

*а. Язэп Гэрмановіч*

Дык ставім пытаньне:

Якая-ж гэтая «савецкая навука», што паўвеку туманіла народ і цьвярдзіла: «Хрыста ня было»?! І толькі цяпер яны зьмяркавалі — ня дзеля навукі, а дзеля прапаганды, што агітатары «працавалі» на шкоду атэізму . . .

Дык вось у артыкуле «Гістарычнае зярнё паданьня аб Ісусе Хрысьце» А. *Каджан,* доктар гістарычных навук, на бач. 8-8-13 піша і пытае, ці «не занадта прымітыўная была такая пастаноўка праблемы»?

І далей выясьняе, што сапраўды нельга так весьці прапаганду. Кажа, што марксісты вучоныя няправільна зразумелі Энгельса, якобы хрысьціянства паўстала па-за Палестынай. І кажа: «Мы цяпер ставімся да праблемы паўстаньня рэлігіі больш асьцярожна. Мы ня прыймаем сур'ёзна ,тэорыі ашуканства'».

Бо даўней іх вучоныя цьвярдзілі, што рэлігію «прыдумалі» і «абдурманівалі» народ.

Аб Хрысьце А. Каджан піша: «Хрысьціянства — калі яно не звалілася зь неба . . . павінна было мець свайго закладчыка». Далей ён шырака разважае розныя доказы існаваньня Хрыста.

Прытым і гэты і іншыя савецкія гісторыкі аднесяць паўстаньне Эвангельля да пачатку ІІ-га веку. А яшчэ нядаўна цьвярдзілі, што Эвангельле трэба аднесьці да ІІІ-га веку!

*

Згаджаюцца цяпер атэісты, што нельга абыходзіць справы Хрыста і хрысьціянства так лёгкамысна, як рабілі дасюль, бо гэта якраз выходзіла на шкоду самога атэізму.

Можамо ім адказаць: «Укусіце сябе за локаць!»



### ДУМКІ З КНІЖАК

*Цікавая проба:* Вучоныя пробавалі гадаваць дзіцё чалавечае разам з дзіцём малпы: спачатку дзіцё малпы было «разумнейшым», але пасьля яно ўсё-ж асталося малпай. Найгорш, што аніяк ня ўдалося навучыць *гаварыць* і нават ня ўдаліся пробы *рысаваць* . . . А дзіцё людзкое ўмела плакаць і сьмяяцца, гаварыць і пяяць, рысаваць і пісаць, і стала разумным чалавекам!

*

Больш дабра зробіш праз тое, чым ты *ёсьць,* як праз тое, што ты *робіш* або гаворыш.

*

У пераможцаў раны зажываюць шыбчэй, як у пераможаных.

*Хворага* трэба ня толькі лячыць, але і выхоўваць.

# Прасьлед рэлігіі ў СССР — новы курс

«Мучыцель накладае рукавічкі»: уласна на гэтым палягае ў Саветах «Новы Курс». У гэтым курсе вымагаецца ад агітатараў, ад лектараў і пісьменьнікаў-атэістаў прыняць мэтоду больш культурную. Забараняецца націск — грубы, даедлівая назойлівасьць, а рэкамандуецца «падход любоўны», спачуваючы і далікатны. Відаць гэта з апошніх нумароў атэістычнага журналу «Навука і Рэлігія». Адным словам ваўку трэба адзець авечую скуру. Аднак усёроўна Ісус Хрыстос ёсьць «Добры Пастыр», а «воўк хапае авец і разганяе» (Эванг. Іоан 10, 12 .

Прычына новага курсу тая, што самі бязбожнікі дзівяцца і нэрвуюцца з жывучасьці рэлігіі ў Сав. Саюзе: зьбіраеюцца сьвяткаваць 50 год рэвалюцыі, а рэлігіі зьліквідаваць ня ўдаецца! За гэты час вымірае старое пакаленьне, а вось новае — узгадаванае ў атэізьме — аказвае нахіл да рэлігіі... Што рабіць?

Маладыя адведваюць музэі і бачаць там старыя памяткі хрысьціянства. Сама савецкая літаратура мусіць прызнаваць заслугі Царквы для культуры. А ўся дарэвалюцыйная літаратура пранікнута верай у Бога і атэісты не патрапяць яе аканчальна вычысьціць ад веры, ані зганьбіць за веру ў Бога. І жыло грамадзтва ў хрысьціянскай культуры 1000 гадоў! Дык старая гісторыя ня можа стацца белай картаю. І тымбольш, што атэістычная гісторыя не зьяўляецца наскрозь чыстай і сьветлай, як яе ні выхваляюць. І 30 гадоў тыранства Сталіна і яго партыі, а пасьля 10 г. хуліганства Хрушчова і партыі — гэта зьдзек над жывымі людзьмі і над культурай народу.

*

У Новым Курсе ўжо гавораць аб Ісусе Хрысьце паважна і прызнаюць Яго існаваньне; такжа прызнаюць карысны ўплыў рэлігіі на выхаваньне дзяцей і на маральнасьць грамадзтва. Затое самі крытыкуюць сваіх агітатараў і лектараў — кажуць, што ўсё-ж трэба студыяваць і пазнаваць рэлігію, каб змагацца зь ёй спакойна, вытрывала, цярпліва і... навукова.

*

Гэты Новы Курс не азначае, што прасьлед зьмяншаецца: наадварот, шмат у чым становіцца больш шатанскім. Ужо ня чуваць аб ліквідацыі цэркваў, бо ўжо няма чаго ліквідаваць. Пакінены на Беларусі цэрквы і касьцёлы — адна на 10 — патрэбны для вока чужаземных турыстаў. І старых інвалідаў-сьвятароў бязбожны ўрад «церпіць», чакаючы іхнай сьмерці, а новыя ня прыбываюць, бо духоўныя сэмінарыі забаронены. Значыць, рэлігія зыходзіць у навачасныя «катакомбы» — падпольле.

Але, хоць «мучыцель накладае рукавічкі», а Хрыстос гаворыць: «Я дзьверы авечак. Усе, колькі іх ні прыходзіла перада Мною, — зладзеі ды разбойнікі... Злодзей прыходзіць толькі дзеля таго, каб украсьці, забіць і загубіць».

---

# Весткі з царкоўнага жыцьця

РЫМ: Сакратарыят для няхрысьціянскіх рэлігіяў працуе нястомна, хоць без разгалосу. — У сэкцыі *для магамэтанаў* кіраўнік яе а. О. К. расказвае: «Я пераехаў Блізкі і Сярэдні Ўсход. Музулманы, зь якімі я гаварыў аб ініцыятыве Сьв. Айца, былі зацікаўлены, а некаторыя прынялі вестку з энтузіязмам. Нам трэба палажыць мінуўшчыну ў архіў і пачынаць новую гісторыю». — Наагул трэба нам, хрысьціянам, зразумець нашыя абавязкі ў адосінах да музулманаў: трэба належна зь імі зблізжацца, каб супольна змагацца супраць недаверства і каб тварыць грамадзтва веручых людзей — ратаваць сьвет ад голаду і ад зьнішчальнае вайны.

*

ГРЭЦЫЯ-АТЭНЫ: Прафэсар унівэрсытэту ў Атэнах Алізатос, (ён такжа ёсьць каралеўскім пракуратарам пры Сынодзе Прав. Царквы ў Грэцыі), напісаў два артыкулы ў атэнскай газэце «Віма» аб Ватыканскім II Саборы. Ён піша: «І так кончылася адно з найважнейшых здарэньняў царкоўных нашага стагодзьдзя... Немагчыма выявіць у агранічаным газэтным абрысе вялізарнае дзела Сабору. Фактам ёсьць тое, што праца Сабору прынесла выняткавы сукцэс, калі ідзець аб значэньне Каталіцкае Царквы і яе палажэньне ў сьвеце. Аднак далёка важнейшая справа, што Сабор давёў да збліжэньня спосабам вельмі практычным між Царквою і сьветам...

«Апошняя сэсія Сабору была найважнейшая, таму што датычыла наступных галоўных праблемаў: навукі Царквы аб ролі Папы; адносінаў Царквы да хрысьціянскага некаталіцкага сьвету, а таксама да нехрысьціянскага веручага сьвету; адносінаў Царквы да рэлігійнае свабоды, да справаў душпастырства і літургіі, да ролі сьвецкіх у Царкве, да фармацыі духавенства, ягоных варункаў жыцьця, вырачэньня лішняе парадаснасьці, да беднасьці, жанімства і т. д. Дзякуючы таму, якое Сабор заняў становішча, Каталіцкая Царква стала бязсумніву экумэнічнай: увайшла на шлях эвалюцыі, абновы, перабудовы. Ніколі дасюль царкоўная грамада не дала доказу такой

шчырай самакрытыкі і не падыймала так далёка сягаючай перабудовы як уласна гэты Сабор...»

«Даць справаздачу з гэтага вялікага Сабору надзвычай трудна. Бо гэты Сабор, названы Саборам абновы заходняе Царквы, міма некатарага ўхілу ад лініі назначанае Папам Янам XXIII, выперадзіў усякае чаканьне і нат найбольш аптымістычныя мроі свайго арганізатара...»

«Праца Сабору на дыскутаваныя тэмы, пасьля ўрачыстага пацьверджаньня пастановаў прынятых у большасьці аднамысна, будзе станавіць афіцыяльную навуку адноўленага Рымска-Каталіцкага Касьцёла. Гэтая навука, хоць нават нас цалкам не здавальняе, з пункту гледжаньня праваслаўнага, аднак рэалізуе гігантычнае збліжэньне, якое трудна ўявіць, між Царквою Каталіцкай, Праваслаўнай і рэштай хрысьціянскага сьвету, а таксама ўзбуджае надзею на магчымасьць будучай эвалюцыі ў справе злучэньня Цэркваў...»

*

ЧЭХАСЛАВАЦЫЯ: Яшчэ перад вайной чэхі прымусілі славакаў прыняць іх верхаводзтва і агранічылі славацкую аўтаномію. А пасьля вайны да гэтага навязалі свой камуністычны строй і атэізм з прасьледам рэлігіі. Перад усім сьветам хваляцца поўнаю свабодай, але ўводзяць усюды сваю мову, школы і парадкі чэскія, называючы чэскую мову «чэхаславацкай», хоць такой няма на сьвеце, бо чэхі «старшыя браты», як для беларусаў і украінцаў расейцы.

Уціск рэлігіі і прасьлед Каталіцкае Царквы ў Чэхаславацыі трывае ад прыходу камунізму і выражаецца вось у чым:

Толькі ў чатырох дыэцэзіях (на 12) дапушчаны біскупы; а іншыя, хоць ужо звольненыя з турмаў, не дапушчаны да ўлады і да публічнага набажэнства.

Яшчэ значны процант духавенства астаецца ў турмах, а з паміж звольненых з турмаў большая частка не дапушчана да духоўнае працы і змушана ісьці ў фабрыкі або займацца рамесьніцтвам. Сьвятароў на волі так мала, што мусяць нядзелямі адпраўляць па 3-ы Літургіі і кіраваць па 5-6 парахвіямі.

Законнікі і законніцы павыганяны із сваіх кляштараў: іх выгналі сілаю аружнай, не пазваляючы ўзяць з сабою нават прыватнае маемасьці (асабістае). Для законніцаў празначаны кляштары ў «канцэнтрацыі», дзе прымушаны ў цеснаце дажываць веку, ледзь могучы здабыць працаю кусок хлеба. — Частка законніцаў пакінена для абслугі ў шпіталях для курацыі нявылечных хворых і старцаў. Маладзейшыя законніцы пагнаныя да працы ў фабрыках, у калгасах, або ў лясох. Слабейшыя і старэнькія — ў «канцэнтрацыі». Аскаржаныя, што прабавалі вучыць дзяцей, або ў апостальстве катахізму, бываюць адразу арыштаваныя і кіненыя ў турмы на самыя доўгія тэрміны

Усе духоўныя сэмінарыі і школы замкнёныя. Дапушчаныя толькі дзьве сэмінарыі — для чэхаў і для славакоў, але лік клерыкаў агранічаны. Калі у 1964 г. кандыдатаў у Славацыі было 81, то камуністычная ўлада пазволіла прыняць толькі 20 і то слабейшых вучняў. Сакратарамі ў гэтых сэмінарыях пастаўлены камуністы-атэісты, якія кантралююць клерыкаў у іх прыватным жыцьці і ловяць, каб ня чыталі «забароненай» літаратуры, да якой залічаецца і папскія энцыклікі. Клерыкаў больш энэргічных сьцерагуць вельмі пільна і калі штось атэістам не падабаецца, загадваюць выдаляць, нават перад самым пасьвячэньнем. Паліцыя стараецца ўвесьці ў сэмінарыі «сваіх» кандыдатаў, значыць, атэістаў-шпіёнаў, або падшукаць і падвабіць клерыкаў слабейшых духам.

Апрача таго ўлада тыранізуе духавенства на кожным кроку. Також моцны прасьлед бацькоў за вучэньне дзяцей рэлігіі, за споведзь іх, за прысутнасьць на Літургіі. У Братыславе перад вайною працавала 180 сьвятароў, а цяпер, хоць лік жыхароў здваіўся, асталося толькі 26 духоўных айцоў. І нельга будаваць новых касьцёлаў, ні капліцаў.

Часта неспадзявана нядзеля аб'яўляецца днём працы і сьвятары змушаны адпраўляць сьв. Літургію або вельмі рана, або позным вечарам. Калі-бы які сьвятар паважыўся ў такую нядзелю цэлебраваць у звычайную пару, быў бы аскаржаны сабатажнікам і арыштаваны.

Спэцыяльныя наглядчыкі пры кіраўнікох дыяцэзіяй пільнуюць, каб на духоўную працу назначаліся самыя мала здатныя сьвятары і прыхільныя атэістычнай уладзе.

Аднак, паміма такіх труднасьцяў і прасьледу, рэлігія ня толькі жыве ў Чэхаславацыі, але яшчэ ўмацняецца. Моладзь і работнікі інтэрэсуюцца рэлігіяй. Бог дасьць, што камуна і атэізм упадзе, а Хрыстос уваскросьне.

*

ФРАНЦЫЯ перажывае эканамічны крызыс — вельмі дзіўны: багацьце ўзрастае, а беспрацоўе павялічваецца і бедных прыбывае... Прычыны розныя: новыя машыны выціскаюць работнікаў, вычарпаныя капальні вугля замыкаюцца, капіталісты ня хочуць рызыкаваць і не разьвіваюць прадпрыемстваў і інш. А безработныя ня могуць быць добрымі пакупнікамі, дык гандаль корчыцца. Дробныя гаспадары ня могуць танна прадаваць прадукты, дык высыпаюць іх на рынках на зямлю, або завальваюць імі публічныя дарогі — дзеля пратэсту...

Такія труднасьці прымушаюць Каталіцкі касьцёл мяшацца ў эканамічныя непаладкі: біскупы ўносяць супольныя пратэсты, даюць свае рады і інструкцыі. А затое газэты вялікіх капі-

талістаў выступаюць з крытыкай, што Царква пэцкае свае рукі ў матар'яльных справах.

Але каталіцкая Царква ня можа глядзець абыякава на недастатак і голад народу і мусіць «мяшацца», як і Сам Хрыстос крытыкаваў капіталістаў, гаворачы: «Гора Вам, багачы!»

Біскупы дамагаюцца, каб капітал не ляжаў бэзработным, каб фабрыканты давалі ўдзел работнікам у даходах, але і каб работнікі працавалі сумленна; каб такжа ўрады дбалі аб бясьпечнасьць і аб патрэбы слабых і пакрыўджаных.

Ужо цяпер і камуністы бачаць, што Царква ня йдзе на руку багачоў і прабуюць уваходзіць у сужыцьцё з каталікамі, як напр. у Італіі сам іхны правадыр Лёнго гаворыць аб гэтым і піша. Аднак, на вялікае нешчасьце, камунізм дасюль, зьбіваючы эксплятацыю з боку капіталу, уводзіў яшчэ горшую эксплятацыю праз сваю партыю, якая прытым змагаецца з рэлігіяй.

✳

ВАШЫНГТОН: Камісія Каталіцкага Эпіскапату і Дэпартамант Рады Цэркваў (амэрыканскіх пратэстантаў) аб'явілі ў сакавіку, што ўстаноўлена сталая *«Група Працы»* — супольная — каталікоў і пратэстантаў для пагадненьня. У Групу ўважодзіць 36 сяброў з абодвых бакоў, людзей сьвецкіх. І-ае сабраньне назначана ў Нью Ёрку. Маюць дыскутаваць аб справах мешаных жанімстваў, аб змаганьні за супакой на сьвеце, аб супольных малітвах і набажэнствах і інш. Гэтая «Група Працы» мае займацца справамі Цэркваў на падабенства Камісіі, што існуе пры Ватыкане, для зьвязку каталікоў з іншымі хрысьціянамі.

✳

ВЭНЭЦУЭЛЯ: У гор. Каракас кард.-архіб. Квінтэро згадзіўся ўстанавіць парахвію для ўкраінцаў грэка-католікаў, якіх там лік даходзіць да 3 тысячаў. Кардынал зьвярнуўся таксама і да мясцовых праваслаўных, якія не маюць там свайго пастыра, што могуць — паводле згоды Ватыканскага Сабору ІІ-га — лучыцца ў служба Божай з каталікамі і карыстаць у Сьвятых Таінствах.

✳

БІРМА: Урад паведаміў каталіцкіх заграничных біскупаў, што да месяца верасьня будуць выдалены з краю ўсе каталіцкія місіянэры — сьвятары і манахі — лікам 239 чалавек, нават тыя, што працавалі у лепрозорыях (шпіталі для пракажаных). Гэта дзеіцца з нагоды нацыяналістычнага руху, які апанаваў увесь край.

✳

ЦЭЙЛЁН: Кардынал Курай, архіб. у Колёмбо, які доўга ляжаў у шпіталях у Эўропе падчас IV Сэсіі Сабору, вярнуўшыся адведаў першага міністра у справах заграничнага духавенства ў Цэйлёне. Нядаўна ўрад загадаў гэтым місіянэрам пакінуць працу і выехаць з краю ў працягу трох гадоў. Цяпер урад прыхільна згадзіўся ўсім місіянэрам, такжа манахам і манахіням, аднавіць візы яшчэ на два гады, абяцаў аднаўляць пазваленьне і на далейшы час. Гэта выклікала здаваленьне ў каталіцкіх колах Цэйлёну.

✳

КАНАДА: 22 біскупы Французскае Канады ўвайшлі ў пагадненьне з 40-а арганізацыямі прыватнага радыё і 8-ю прыватнае тэлевізіі, якія згадзіліся даваць адпаведны час і магчымасьць біскупам камунікавацца із сваімі вернікамі-бесплатна.

✳

ФІЛІПІНЫ: Канфэрэнцыя Біскупаў у Маніле пастанавіла дапусьціць да сьв. Літургіі мову гішпанскую, ангельскую і сем мясцовых народных моваў.

✳

«МІЛЕНІУМ»

Сёлета у Польшчы абходзіцца рэлігійная і нацыянальная ўрачыстасьць — памятка 1000 год ад хросту Польшчы, 966—1966. Да гэтага сьвята ладзілі прыгатаваньне праз 9 гадоў — «Навэнна». Урачыстасьць пачалася ў гор. Гнезьне і Пазнані 17—19 красавіка. — 3-га травеня адбылася Сьв. Літургія з працэсіяй у Чэнстахове — гэта было цэнтрум сьвята: прысутныя былі ўсе Біскупы Польшчы (заграничных Біскупаў урад не дапусьціў).

Дня 22 травеня г.г. адбыўся ўрачысты абход ПОЛЬСКАГА МІЛЛЕНІУМ у Лёндане на стадыёне: сабраньне народу — асабліва эмігрантаў — было вельмі вялікае, стадыён быў запоўнены. Цэлебраваў Сьв. Літургію Біскуп Рубін, прысутнічалі Папскі дэлегат Кардінале і Архібіскуп Лёндану Гінэн — Кардынал.

Пагода, праўда, недапісала: вялікі вецер і дождж надта перашкаджаў падчас набажэнства.

---

**ЖАРТЫ**

Жылі-былі дзед і баба. Прыйшоў да іх інструктар ячэйкі.

Інструктар: — Гэй, старыя, пара вам ад Бога адказацца: здымайце абразы!

Дзед: — Ах, галубок! Мы ўжо даўно адказваемся, але Бог ад нас ня хоча адказацца.

Інстр.: — Як-то ня хоча?

Дзед: — А так: то неўражаі, то хлеб заграніцай трэба купляць . . .

Інстр.: — Ну, будзьце асьцярожны, бо ў вас контр-рэвалюцыя ў галаве!

Баба: — Не ў галаве, але ў жываце . . .

Інстр.: — Як-так?

Баба: — А так: тры дні бяз хлеба сядзімо.

Інстр.: — Дык купіце сабе!

Баба: — То няма гдзе купіць, то няма за што купіць. — Дык парадзь нам, што рабіць?

Інстр.: — Тут ужо і сам чорт не парадзіць! — Сказаў інструктар і пляснуў дзьвярыма.

## З беларускага жыцьця

Лёндан (Англія)

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ ЎГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Сьвяткаваньне 48-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Лёндане ў гэтым годзе у нядзелю 27-га сакавіка.

Раніцаю ў гэты дзень адбыліся Багаслужбы у каталіцкай і праваслаўнай цэрквах, адслужаныя а. А. Надсонам і а. Прат. Тарановічам.

Па паўдні была ўрачыстая акадэмія ў Беларускім Доме. Даклад прачытаў Старшыня Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ, сп. П. Навара. Гэты даклад быў цікавы тым, што ў ім быў разгледжаны ня толькі сам Акт 25-га Сакавіка, але была зробленая спроба падсумаваньня вынікаў гэтага Акту ў беларускім нацыянальным жыцьці на працягу 48 год ад яго абвешчаньня.

Сп-шня Вера Рыч зрабіла кароткі даклад па ангельску і дала праграму ейных новых тлумачэньняў беларускай паэзіі. Наканец хор вучняў Школы сьв. Кірыла выступіў з праграмаю песьняў і дэклямацыяў. Пасьля заканчэньня ўрачыстай часткі было скромнае, але добра падрыхтаванае прыняцьце для ўсіх прысутных.

Крэзо (Францыя)

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ ЎГОДКАЎ 25-га Сакавіка

*(Ад мясцовага карэспандэнта)*

У нядзелю 27-га сакавіка нашая сьціплая сэкцыя Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі пастанавіла адзначыць 48-мыя ўгодкі Акту 25-га Сакавіка. Рана Айцец Архімандрыт Леў Ґарошка меў Службу Божую і пры гэтай нагодзе сказаў казаньне. Па паўдні ў прыхадзкой залі ўсе сябры сэкцыі і госьці сабраліся на ўрачыстую акадэмію. Адчыніў акадэмію старшыня сэкцыі. Пасьля таго, як усе паслухалі рэлігійны гімн з кружэлак, ён прачытаў даклад на тэму дня і перадаў слова а. архім. Гарошку. Айцец Гарошка падзяліўся з прысутнымі навінамі з беларускага жыцьця на сьвеце і заклікаў усіх трымацца заўсёды разам. Афіцыяльная частка была закончаная Нацыянальным гімнам. Пасьля адбыўся сьціплы пачастунак, песьні і танцы. Усе пажадалі сабе спаткацца зноў у наступным годзе.

*М. Б.*



# Д-р Станіслаў Грынкевіч



Дня 18 красавіка г. году памёр у гор. Кліўленд у Амэрыцы наш Паважаны Суродзіч д-р Станіслаў Ґрынкевіч. Ад значнага часу быў нездаровы, але сьмерць захапіла Яго неспадзявана (хвароба сэрца) ў веку гадоў 54. Асіраціў жонку і трох сынкоў. Сьв. Літургія ў Лёндане ў Марыян Ґоўз была адпраўлена 30 красавіка.

Паведамляе наш карэспандэнт з Чыкаго, што на просьбу Згурт. Беларусаў Шт. Іллінойс адпраўлена Сьв. Літургія ў храме Хрыста Спасіцеля 24 красавіка за душу Сьв. Памяці Станіслава. А такжа прыяцелі д-р Ст. Грынкевіча, медыкі замовілі набажэнства на 22. V. Вялікая шкода, што на пахарон нашага Прыяцеля ня мог прыехаць а. Ул. Тарасэвіч! Затое прыбыў а. Фр. Чарняўскі.

Д-р Грынкевіч — веручы каталік, шчыры Беларус — быў усею душою адданы народным справам. Маючы характар адкрыты, ён адважна выступаў у абароне нацыянальных вартасьцяў: не сумневаўся гаварыць праўду ў вочы сваім і чужынцам, каталіком і праваслаўным — аж няраз браў на сябе адказнасьць за справу чыста народнае ідэі і выклікаў варожыя пратэсты, ды і сам перажываў і мучыўся ў сваей глыбокай душы. Гэта і прыскорыла ягоную передчасную сьмерць. — Няхай-жа чужая зямля будзе яму лёгкай, а Бацькаўшчына ягоных вялікіх заслугаў і ахвярнасьці не забудзе.

Нашая Рэдакцыя лучыцца з Прыяцелямі і Сям'ёю Памёршага ў жалю і спачуваньні.

Вечны супакой дай Яму, Госпадзі Божа!

## З беларускае прэсы

БЕЛАРУС: Год XVII, № 106, Студзень, 1966. Нью Ёрк.

Нашаніўскі Год 1906—1966: вельмі важны ЮБІЛЕЙ у беларускім адраджэнскім руху. 14 верасьня 1-ы № газэты «НАША ДОЛЯ». 24 лістапада 1-ы № газэты «НАША НІВА». (Чытайце «Успаміны аб «Нашай Долі»!). І арт. «Барбары разбураюць, а паэты пратэстуюць». (Чытайце аб м. Гальшанах).

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: № 134, Студзень, 1966, Торонто, Канада Арт. «У вабароне нішчанай Беларускай Культуры».

СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ: Год выд. 33, 1966, № 1 (82).

БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА: № 35, 1965, Чыкаго. Вельмі багаты зьместам і салідна апрацаваны нумар. Аб перакладзе сьв. Літургії Зах. Абраду. Тыдзень Студыяў у Чыкага: 30, 31 ліпеня і 1 жніўня 1965. І Дзень: Даклад Б-па Ч. Сіповіча, ІІ Дзень: Даклад В. Пануцэвіча — «Пытаньне Беларускай Адрадж. Ідэалёгіі» — гістарычныя і сучасныя досьледы. — Далей аб Алізе Арэшка і аб Багушэвічу вельмі цікавыя весткі.

НЕЗАЛЕЖНІК: Час. Вялікалітоўскі (Беларускі). Выходзе непэрыядычна. Лістапад — 1965, № 1 і № 2-гі, Люты — 1966, д-ра Я. Станкевіча. Нью Ёрк.

АЕ'ЕДНАНЬНЕ: № 1 (107). Лёндан, Сакавік 1966. — Б.Н.Р. — «Акт 25-га Сакавіка і Б.С.С.Р.»

ВЕХІ: № 18, Травень 1966, Год выд. XI. — Цікавы фэльетон «Гаспадары»: толькі «Старшы Брат» ёсьць гаспадаром у сябе і ў нас. Нас можна называць усяк: парабкі, найміты, прыслужнікі, прыгоньнікі... Толькі-ж аўтар не мае слушнасьці, калі кажа, што «нашы ў БССР нямаюць адвагі прызнацца, што яны не гаспадары». Нельга зь іх сьмяяцца: такая «адвага» каштавала-бы ім галавы!

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 4 (51) 28, II, 1966.

НІВА: № 12 (525), Год XI, III, 1966. Беласток.

СЯЎБІТ: Вяліка-Літоўскі (Беларускі) двум. 1966 Сакавік-Красавік № 49.

ЗЬНІЧ: Бел.-Рэліг. Часопісь. Год. XVII, Студзень-Сакавік 1966, № 87.

### ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

ГАМБІЯ: Гэта незалежная дзяржава ў Афрыцы: мае 316 тысяч жыхароў і мае права пасылаць прадстаўнікоў у краі ўсяго сьвету. Афрыка ёсьць чорная, але свабодная!

Пісьменнік Валеры ТАРСІС, якога выпусьцілі з Масквы заграніцу, стаў прымусовым эмігрантам: Сав. Саюз адабраў ад яго грамадзянскія правы. Але ў Англіі аб Тарсісе пішуць, што ён нічога на гэтым не страціў бо там наагул грамадзяне правоў не маюць...

ЛЮДЗЕЙ на сьвеце больш 3 мільярдаў, а ў 2000 годзе мае быць 6 мільярдаў. Што год прыбывае каля 65 мільёнаў. (Аднак тыя сем'і, у якіх родзіцца адно а нат двое дзяцей, прычыняюцца да таго, што такі народ вымірае).

САБАКІ: Амэрыка выдае на ўтрыманьне сабак 15 мільнаў даляраў у год. Англія — 9 мільёнаў. У Амэрыцы пудэль каштуе 600 дал. Стрыжка, завіўка і ванна для аднаго сабакі — 11 дал. у месяц. Ладзяцца таксама і «вечарынкі» для сабак. *Пахаваньне* сабакі ад 18 да 35 дал. — залежна ад гатунку труны (дамавіны). Металічная труна — 100 дал. — На сабачым магільніку пахавана ўжо 20 тысяч. — У тэлевізіі ў Лёндане паказывалі, як на параплаве сабакі ехалі 1-ай клясай, мелі асобныя пакоі, асобны стол у рэстаране поруч з сваей гаспадыняй.

Увага! А колькі на сьвеце людзей галодных?.. бо худых сабакаў у Англіі не спатыкаецца.

## Краявіды з Сувальшчыны



# З лістоў у рэдакцыю

БРАЗЫЛІЯ: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Вітаю даражэнькага Рэдактара а. Язэпа, усіх супрацоўнікаў, пісьменнікаў, чытачоў «Божым Шляхам» і ўсіх Братоў-Беларусаў на чужыне і ў паднявольнай Бацькаўшчыне!

Фавэля (хацінка), у якой я пражыў шэсьць гадоў, завалілася 11-га студня ад магутнага ветру і дажджу. На шчасьце, я быў тады ў другой хаце і бачыў сваю праз вакно, але вельмі баяўся, каб і гэтая — лепшая і мацнейшая — не завалілася мне на галаву, бо ўся дрыжэла як у гарачцы. Але Божанька сьцярог мяне і гэты раз ад наглае сьмерці. Так тры дні шалела бура і нарабіла страшэннае шкоды.

У горах, дзе жыве бедната, аб'яжджала зямля, бо паразмывала ўвесь грунт, хаткі валіліся на людзей і гэтак пагінула шмат народу, а ліку забітых і заморaных ня ведае ніхто.

Былі таксама разбураныя і вялізныя дамы, што стаялі на аткосах і ўнізу: там людзей ратавала паліцыя і пажарнікі. З вуліцаў у горадзе парабіліся рэкі, а дарогі так паразмывала, што і цяпер яшчэ ня ўсюды папраўлены. Найбольш, ведама, гінуў і цярпеў бедны народ: трэба было-б даць памяшчэньне для беднякоў больш трывалкае, але багатым і так добра, дык аб бядоце дбаць ня хочуць.

На самай высокай гары Ріо, Санта Тэрэса, было найболей стратаў і ў будынках і ў людзях. Паабсувалася зямля і згары Коронадо, але фігура Хрыста стаіць на скале ўстойліва і, здаецца, кліча ўсіх да Сябе — добрых і нягодных.

Так устаіць падчас усіх бураў і Хрыстовая Царква на Пятровай Скале, заклікаючы ўсіх і молячыся за грэшны сьвет і за тых, што яшчэ Божага сьвятла не маглі, ці не хацелі ўбачыць.

Надта мне хацелася спаткацца з Уладыкай Чаславам, калі прыяжджаў у Бразылію, але ніяк не ўдалося!

Варункі жыцьця тут яшчэ пагоршыліся: дарагоўля расьце з кожным днём. Адно курынае яйко каштуе 100 круцэйраў, кілё бульбы 600 кр., а кілё мяса 2000! Значыць, ня лёгка жывецца старому, недалужнаму і глухому, дый няма нікога блізкага, апрача хворае дачкі. А жыць трэба...

*Віктар Небядовіч*

✻

*Высока Паважаны Айцец Рэдактар!*

Тыдзень таму я пераслаў на Ваш адрас $ 32 (трыццаць два): з гэтага $ 2 на «Б. Шл.», апошнюю суму на Фонд Пабудовы.

У Аўстраліі ў нас спакойна, хоць моладзь ідзе на вайсковую службу.

Шмат ахвяраў з Аўстраліі ідзе на галодных індусаў і іншых азіяцкіх народаў. Прытым ў нас вельмі засуш: страты ў гаспадарцы вынесьлі $ 620 мільёнаў! Частка (сярэдняе Аўстраліі) апусьцела зь людзей і жывёлы. Запас вады зьменшыўся ў многіх ваколіцах на $^2/_3$ і ваду давозяць цягнікамі. Калі ў працягу году ня пойдуць вялікія дажджы, то ўсей Аўстраліі пагражае засуха. Пакуль што гэты вялікі кантынэнт трымаецца добра і ў 1965 годзе прыняў 145,000 імігрантаў.

Мы цяпер вось перашлі на дэцымальную сыстэму ў грашах. (даляр) і ў вагах.

Беларускае грамадзтва ў Аўстраліі моцна ўзварушана фактам, што рас. камуністы не дапускаюць выдаць календароў у беларускай мове.

11. III. 66. Пісьмо Ваша атрымаў і цешуся вельмі! Не праймайцеся ні працай, ні прыяцелямі, якія прыходзяць і адходзяць нібы марская хваля. Працаваць трэба ўмеру; высока трэба цаніць адпачынак. Не пагарджаць ім, як гэта прынята ў законах, — тады будзеце мець фізычную і духовую раўнавагу, ды і не варажыце доўга, а зьвертайцеся да майго фаху калегі, а ён узброены ў сучасную мэдыцыну, лёгка выведзе Вас зь бяды.

«Божым Шляхам» значна ажывілася і набрала больш сьвецкага рэлігійнага характару. Агляд прэсы, хроніка і карэспандэнцыі ды фатаграфіі зьяўляюцца добрай акрасай цэласьці. Заахвочвайце пісаць людзей аб усім і ад усюль, дапускайце таксама і іншых паэтаў да слова.

Аб прыяцелях. Я ня думаю, Айцец, каб Вы мелі якіхсь непрыяцеляў: Вы маеце толькі людзей зь іншымі паглядамі. А мы ўсе погляды мусімо шанаваць, за выняткам камуністычнага. Рабіце спакойна сваё, а як будзеце мець сукцэс, то прыяцелі вернуцца і будуць яшчэ лепшымі.

Наогул наша справа што раз шырэй уразаецца ў арбіту палітычнага і культурнага сьвету. Асабліва цэнна ўзьменка зьяўляецца ў апошнім выданьні «Энцыклёпэдыя Брытаніка». Наша нафта шмат дасьць запалу да пазнаньня Беларусі на Захадзе, і ў прышласьці гэты фактар можа вырашыць прыхільнасьць і станоўкасьць дэмакратычных краёў да нашай незалежнасьці.

З абрыўкаў сав. прэсы даведваемся, што на расейскім «Алімпе» неспакойна: маладыя камуністы бунтуюцца супраць ілжы, тэрору, прасьледу адзінкі і яе свабодных думак, а такжа супраць ганебнае беднаты.

Аб старасьці, Айцец, думайце як найменш, а Бог дасьць даволі сілы і здароўя, каб жыць многія леты на славу нашага народу. (Увага! Калі ўважаеце патрэбным, перадрукуйце ў «Божым Шляхам»).

*Д-р Я. Малецкі*

*Адрас:*
Dr. Joseph Malecki
10 Barbara Str.,
Fairfield, N. S. W.

✻

*Вельмі Паважаны Ойча Гэрмановіч!*

Шчыра дзякую за часапіс «Божым Шляхам», часапіс, з усіх часапісаў, якія выходзяць на эміграцыі, найлепшы.

«Хто чытае, той плаціць», словы Рэдактара. Вось далучаю $ 5 на «Божы Шлях». Мне памагаюць матар'яльна сябры, дык і я... бо Амэрыканская убезпечальня німае грошы для хворых.

Вось прашу гэту афяру непадаваць у часапісе «Божым Шляху».

Жадаю памыснай працы на ніве рэлігійнай.

Няхай Вам Бог памагае.

*(Подпіс Н. Н.)*

*Увага Рэд.:* Усё-ж мы лічылі патрэбным замясьціць гэты лісток і ахвяру; на жаль, ня можамо падаць фаміліі нашага прыяцеля!

✻

*Дарагі Айцец!*

«Каб нам не плакаць па той шкодзе,
Плачу доўг па добрай згодзе!»

Часапіс *«Божым Шляхам»* становіцца што раз больш і больш цікавым часапісам і яго павінен чытаць кажны беларус, ня гледзячы на тое, ці ён каталік ці праваслаўны. (Я сам праваслаўны). Пака прашу прыняць гэтых пару даляраў.

З глыбокай пашанай

*В. К.*

Сакавік, 20. 1966.
Коннэктікут

## ДА ЎСПАМІНАЎ АБ СЬВ. ПАМ. А. ВАЦЛАВЕ АНОШЦЫ

*Дарагі Ойча Рэдактар!*

Дзякую за вестку, але шчыра Вам кажу, што не хацеў-бы яе чуць, пакуль быў-бы жывы. Вестка так мяне паразіла, як-бы зьнянацку хто ўдарыў абухом па галаве! — Хай-жа будзе чужая зямля яму пухам!

Калі буду сягоньня пісаць і траха нявыразна, то выбачце, бо лішне рукі трасуцца ад балючае мне весткі.

Сьв. Пам. а . Аношку я пазнаў у першы раз у 1919 г. ў Познані, як была выстаўка і мімалётна перакінуліся словамі. Я тады быў у гаспадарскай школе і мы прыехалі цэлай школай.

Як а. Аношка прыехаў у Дэлятычы на парахвію, то мы вельмі зь ім пасябравалі, хаця і часта сварыліся — амаль, як кажуць, «да кулакоў» – у справе папоў. Але назаўтра пры спатканьні ўзноў прыяцелямі, дык а. Вацлаў пытаўся: «Ну, як здароў? Ці зноў будзем спрачацца?» Тады зноў даходзіла да «ярэцікаў, камуністаў...» — А ўсё-ж мы аставаліся прыяцелямі! У 1941 хрысьціў маю дачку і выбраў ёй імя Маргарэта, і ў знак нашае дружбы я згадзіўся

Колькі я знаў сьвятароў, то а. Аношка быў ідэал! Сапраўды сьвятар у поўным сэнсе гэтага слова — і маральна і рэлігійна. Калі-б Бог даваў найбольш такіх сьвятароў, то хрысьціянская мараль не западала-б.

Я добра знаў ксяндза Татарыновіча — гэта быў выдатны прапагандыст (ён часта да нас прыяжджаў). Дзякуючы аа. Татарыновічу і Аношцы наша моладзь была высока ўзгадавана маральна — гэтым было рада старшае пакаленьне: да іх царква была амаль пустая моладзьдзю, а пасьля была поўна моладзі! Што — кажу — былі рады і бацькі і сьвятары. Аб гэтым мне і пісаў калісьці а. Татарыновіч з Рыму, што «слава аб Дэлятычах ведамая і ў Рыме».

Паўтараю: а. Аношка нашую моладзь так узгадаваў — я пэўны — так высока не стаяла, як існавала нашая парахвія! — Аношка хадзіў у аднэй сутане — думаю — ня было зашто купіць: свае сілы і «фінансы» аддаваў на нас — моладзь і парахвію. Аднавіў царкву звонку і ўнутры, справіў клябанію, дом для псаломшчыка, бо пасьля сусьветнае вайны (I-ае) было ўсё запушчана: перад ім сьвятары нічога аб тым не дбалі.

Для моладзі купіў струнную аркестру — 20 мандалін, 20 балалаек, 4 гітары і адзін кантрабас. На свой кошт трымаў дырыгента, залажыў бібліятэку. Быў падняўшы ініцыятыву залажыць каапэратыву, але ведаеце, як на нас глядзелі палякі і жыды, дык усё правалілася! А колькі ён укладаў клопатаў і выдаткаў, то хіба аб гэтым толькі Бог ведае!

Адзін бедны хлапец добра граў, але ня меў у чым прыходзіць на рэпэтыцыю, — а. Аношка зьняў свае боты і аддаў яму. Казаў: «Я якколечы згарую другія».

У клябаніі зрабіў «хату-чытальню»: у суботу вечарам зьбіралася ўсе моладзь і старшыя. Аношка чытаў. Помню колькі было сьмеху, як быў «Тарас на Парнасе». Уся парахвія яго любіла і казалі: «Мусіць Сам Бог нам прыслаў такога бацюшку!»

Я жыў у цесьця і да нас часта заходзіў а. Аношка, бо цесьць быў царкоўным старастам. Я часта жартаваў: бывала ходзіць па хаце, а ў ботах «чвахчвах!»; а я кажу: «Што гэта ў Вас, ойчанька, жабы ў ботах завяліся?» І паказаў у ботах і ў кяшэнях вялікія дзюры...

Казала ягоная гаспадыня (некая яго цётка): «Бялізна — адно шмацьцё. Зара і сутану ня будзе магчы адзяваць: якую капейку пападзе, зара аддае. Аб сабе нічагутка ня думае...»

*

У 1939 г. «працягнулі нам руку», (як яны казалі) Саветы, а затое мы казалі «Скора працягнем ногі!».

З клябаніі а. Аношку выгналі: зрабілі ўправу Сельсавет, на царкву налажылі 3 тысячы рублёў падатку. Парахвія сабрала грошы, а плацілі ўсе; а багаслужбы ішлі нармальна. Аношка кожны дзень рана-вечар служыў «ціхую». Людзі казалі: «Ойчанька, як Вы не баіцеся адзін у царкве?»

Ён кажа «Як-жа можна баяцца? Там — Бог жывы!»

Царква была (сьвятам) поўная і пры Саветах. Нейкі жыдок з Расеі (прапагандыст) хацеў забраць царкву на клюб, але моладзь не пайшла туды (у школу) ні на музыку, ні на зборкі падчас набажэнства — усе ішлі ў царкву. Так Саветы не пасьпелі забраць царквы, бо скора прыйшлі немцы.

Немцы зьнялі званы, але адзін Аношка адпрасіў. Людзі пасьля казалі: «Ужо Аношка тузае за аборку — трэба ісьці ў царкву!».

Аднойчы зьявіліся партызаны і крычалі: «Давай нам усё, што маеш!» І адзін пачаў страляць у абразы: а. Аношка трэснуў яму па руццэ, вырваў наган і выкінуў на двор і загаманіў: «Што ты, нягоднік, робіш? Цябе Бог скарае!».

Пасьля ім кажа: «Што я маю вам даць? Я сам гол, як сакол».

І забралі яго з сабой. Хацелі застрэліць, але неяк адпрасіўся адслужыць Вялікодную Службу і пасьля ўцёк у Наваградак. І ад таго часу я ня меў аб ім ніякіх вестак. Аж у 1943 г., як быў у Судэтах, дык адшукаў яго праз кагосьці і ён прыслаў мне ліст з пад Кракава і прыслаў сваё фота. Часта пісаў мне ў Судэты: «Ведаеш, браток, я ўсёроўна ў Дэлятычы вярнуся — так мне шкода, што іх пакінуў!» Але — відаць — ягоныя мары ня збыліся.

У часе капітуляцыі нашая сувязь перарвалася і я выехаў сюды, ў Аўстралію. Два гады яго шукаў: пісаў у Курыю ў Варшаву, у Кракаў і ў Беласток і адтуль мне прыслалі адрас. І — паверце — мы зноў навязалі сувязь! Якой было радасьці... Мусіць Сам Бог нам пазволіў адшукацца.

Апошні ліст я атрымаў ад яго на Ражство — аж ужо ад Вас атрымаў вестку аб сьмерці.

Зусім справядліва можна закончыць аб а. Аношку: „Ecce Homo!“ «Вось чалавек!».

Што датычыць нашага хору — то ён быў чутны ня толькі ў нашай парахвіі, але і паза межамі (не хвалюся, што я сам браў у ім удзел). Мы выяжджалі ў Наваградак, часта ў Пінск і ваколіцы. У нас быў вельмі здольны псаломшчык-рэгент, Сямашка Якуб, вэтэран Слуцкага Паўстаньня. Як прышлі Саветы, яны добра ўсё аб гэтым зналі, дык яму было вельмі цяжка ад іх і хутка перад вайною ў 41 годзе вывезьлі ягоную жонку зь дзіцём, а заўтра забралі і яго самога — была субота, а ў нядзелю, як ведама, пачалася вайна зь немцамі і ўсе весткі аб ім загінулі і — хіба трэба думаць – і ён сам. Я адсюль наводзіў спраўкі праз Чырвоны Крыж і адтуль мне пісалі, што ніякіх вестак аб іх не маюць.

Пасылаю Вам фото-частку нашага хору.

Дык будзьце здаровы! Астаюся зь вялікім жалям.
Ваш сын у Хрысьце

*Ч. Канстантыновіч*

15. III. 1966
Аўстралія.

*а. Я. Гэрмановіч*

# Згода

*(Байка)*

*Чаму так доўгімі вякамі*
*Жылі у сварцы Лебедзі з Арламі?*[1]
*Наш белы Лебедзь купаецца ў вадзе,*
*Арол да сонца — ў неба йдзе:*
*За што-ж тады, хто Бога не баіцца,*
*Сварыцца?*

*Вялізны Лебедзь у ахвоце,*
*Зламаўшы перашкоды,*
*У хуткім самалёце*
*Ляціць у Рым шукаці мілай згоды. —*
*(Сталіца там была*
*Магутнага Арла).*

*Аж раптам Качкі-лапатушкі,*[2]
*Прыгожыя дзьве птушкі,*
*Лятуць-крычаць:*

*«Мы крыльлямі загусьцім —*
*Да згоды недапусьцім!*
*Бо Лебедзь-здраднік: ён з разгонам*
*Ляціць у Рым з паклонам. –*
*«Мы шыбка паляцім*
*За ім. —*
*Наш крык мудрэйшы як дактрына*
*Самога Бога-Сына!»*

*Ляцелі Качкі так — пацелі:*
*Хоць на пратэсьце зубы зьелі,*
*А ў Рыме ў лужу селі*
*І занямелі...*

*Назад у Лёндан тымчасамі*
*«Туп-туп» дзьве Качкі з доўгімі насамі...*

*

*Ці-ж не сьвятая ў нас надзея*
*У Рым вяла Рамзэя?*

[1] Англікане з Каталікамі.
[2] Два англіканскія баптысты пратэставалі.

# Дзед і ўнучак

*Помню — хлопчыкам маленькім*
*Зь дзедам моцна я дружыў:*
*Як стаяў ён на каленках —*
*«Анёл Панскі» гаварыў;*

*Ці як з сошкаю крывою*
*Скібаголіў паласу;*
*Ці гарачаю парою*
*Серп вастрыў, кляпаў касу.*

*Неяк раньняю вясною*
*Выйшаў мой дзядуль араць,*
*Я-ж за дзедам баразною —*
*Дакранаў яго рукою*
*І хацеў аб чымсь спытаць. —*

*Селі ластаўкі на плоце,*
*Між сабою шчабяталі:*
*Бусел там блудзіў ў балоце,*
*Ў небе жаўрукі сьпявалі,*
*Кукавала дзесь зязюля...*

*— Раскажы ты мне, дзядуля,*
*Дзе яны тады бывалі,*
*Як па полі сьнег лятаў,*
*Як марозы нас пужалі,*
*Як шалела грозна бура —*
*Бунтавалася натура —*
*На вазёрах лёд стагнаў? —*
*Затрымаўшы дзед сівога,*
*Лоб свой мокры выціраў*
*І, падумаўшы нямнога,*
*— Ну, дык слухай! — так казаў:*

*— Як мінула цёпла лета,*
*Хутка будзе ў нас зіма:*
*Птушкі ведаюць аб гэтым —*
*Голад — корму больш няма!*

*— На паўдзён тады зьбяруцца. —*
*Бяда — гора —*
*«Гэй за мора!» —*
*Трэба здужаць —*
*Перш пакружаць*

*І лятуць —*
*Лятуць —*
*Лятуць!..*
*— А з дарогі не саб'юцца —*
*Бог паказвае ім пуць.*

*— Зіма злая не дастане —*
*Пражывуць там да вясны.*
*Ясна сонца толькі гляне,*
*Зара вернуцца яны! —*

*З таго вельмі я дзівіўся —*
*Казаў: – Там цяплейшы май! –*

*Кажа: дзед: — Хто тут радзіўся,*
*Сэрца цягне ў родны край.*

Н-скі.

Амэрыка, 3. 13. 1966

ВЫШЭЙШАЯ МАТЭМАТЫКА

На мітынгу ў калгасе Чырвоны Пупок агітатар казаў:

— Мы ўжо блізка паўвеку б'ём Амэрыку ў-ва ўсіх працэнтах...

І-ы голас з народу: — А чаму, калі так, ні Амэрыка купляе ў нас пшаніцу, а мы ў Амэрыцы, Канадзе і ў Аўстраліі?

Агітатар: — Ёсьць на гэтае тры прычыны: 1-ая. Мы купляем, бо маем за што купіць, а яны не маюць за што.

— 2-ая прычына. Як мы зьядзём іхную пшаніцу, дык скарэй іх дагонім.

— 3-ая прыч. Няхай Амэрыка з таго лішне не фарсіць, бо як зробім у іх рэвалюцыю, дык і ў іх будзе тое самае.

І-ы голас: — Але-ж...

ІІ-гі голас перабівае: — Ды ты, суседзе, лепш маўчы, бо ўсё роўна нічога не зразумееш: тут вышэйшая матэматыка.

# *Для развагі*

ДУМКІ З КНІГІ ІОАНА, ЯПІСКАПА САН-ФРАНЦІСКАГА, «ЧАС ВЕРЫ»

«Зло ў сабе ня здольнае аб'яднаць людзей і народы... Яно выдумывае прывіды дабра і праўды, каб наўкол гэтага злучыць чалавецтва супраць Хрыстовай Праўды.»

Дзеля гэтага атэісты даюць рэкляму няіснуючага дабра і праўды і вядуць бязупынную прапаганду свайго прывіду. Як гэта не памагае, дзеюць прымусам сваей праўды: з гэтуль ізаляцыя камуністычных краёў, Бэрлінскі Мур і інш. падобныя факты.

Падобна паступалі фарызэі, якія прыкідваліся справядлівымі супраць Хрыста: калі не маглі на Ім знайсьці грахоў, дык намагаліся крыкам, подступам, страхам, падкупам — аж збунтавалі жыдоўскі народ супраць Мэсыяша-Хрыста, якога самі чакалі, а ўканцы ўкрыжавалі. Яго.

«Дабро і зло разам растуць, цьвітуць і пладаносяць на полі гэтага жыцьця.»

Але «царству зла павінен прыйсьці канец. Ён можа быць недалёка.»

«Няшчасны чалавеча, знайдзі час для дабра! Але ты ня маеш часу нат падумаць аб дабры. Усяго поўна ў тваім жыцьці, а дабро стаіць ля парогу - стукаецца.»

«Чалавеча, дзе тваё дабро, дзе ты сам? Ты схаваўся ад Бога і ад самога сябе схаваўся за скрутамі калёс і вінтамі жыцьця. Кажу табе: сьпяшайся тварыць дабро, пакуль ты на гэтым сьвеце! „Хадзі у сьвеце, пакуль ёсьць сьвет"... Прыйдзе ноч, калі ты ня зможаш тварыць дабра, хаця-бы ты захацеў.»

*Малітва:* «Шмат хто цяпер моліцца... — Госпадзі, даруй ім малітву дасканальную!... Шмат хто Цябе просіць. — Дай ім, што просяць... Шмат хто пасіляецца Тваею спажывай, багаславі яе... Шмат уступае ў жанімства, — Госпадзі, багаславі гэтых жаніхоў! Шмат уміраюць у гэты момант, — хай іх апошнія хвіліны будуць у Твае ласцы... Шмат Цябе шукаюць, — адкрыйся ім! Шмат грашаць вось цяпер, — даруй ім, зьвярні да Сьвятла. Шмат хто стаіць на парозе граху, не дапусьці да гэтага! Тых, што Табе служаць, умацні на шляху Тваей праўды. Прымі пакуту пакутуючых. Шмат хто Цябе ня знае, дай, каб гэтая малітва была верай... Хай будзе слава, моц і падзяка Тваей Праўдзе. Аман.»

✳

МАТЭР'ЯЛІЗМ

«Матэр'ялізм — гэта ёсьць вера ў матэрыю; гэта ёсьць прызнаваньне — замест Бога — кейкае матэрыі, якая ніскуль не паўстала і нікуды не вядзець; матэрыі, што нікуды не цячэць і нікуды ня прыцякае... Матэр'ялізм — загадкавая вера ў матэрыю...

У гэтай веры ёсьць свае пракокі, вучыцелі, дагматы, аўтарытэты... Усё так, як і ў рэлігіі. Толькі наадварот. Рэлігія — вядзе да Бога, а матэр'ялізм — ад Бога.

Матэр'ялісты самі ня ведаюць, што такое матэрыя, адкуль яна і дзеля чаго яна... Матэрыя для матэр'яліста — няжывое боства, бяз сьведамасьці.

«Матэр'ялізм» родзіцца з людзкога жаданьня, каб ня верыць у Бога.

Адзін гэрой Дастаеўскага сказаў: «Калі няма Бога, дык усё пазволена». Тады няма ні дабра, ні зла. І кожная партыя, і кожная дзяржава, і кожны чалавек, могуць выдумываць сваё дабро і сваё зло. Тэорыя выгодная для ўсіх, што ня хочуць жыць паводле Божага закону, а паводле свайго ўласнага.

У матэр'ялізм верыць толькі той чалавек, які ня хоча, каб быў Бог. Баючыся вышэйшага маральнага суду над сабою, людзі думаюць, што магчыма схавацца ад Бога ў матэрыю, як страус у пустыні хавае галаву ў пясок.

Пасьля вайны ў Парыжы аддавалі ганоры ангельскаму вучонаму Флеммінгу, які выкрыў пэніцылін. На ўрачыстым кангрэсе ў яго чэсьць было сказана шмат пахвальных словаў. Адказваючы, прафэсар Флеммінг сказаў: «Вы кажаце, што я нешта вынайшоў: а па праўдзе я толькі ўбачыў тое, што было створана Богам для чалавека. Чэсьць і слава належыцца ня мне, а Богу.»

---

## АБАВЯЗКІ

Выконваючы абавязкі народы і адзінкі ўзрастаюць у магутнасьць; апускаючы абавязкі народы і адзінкі гінуць.

Выконваючы свае абавязкі, народы перамагаюць буры падзеяў, лянівыя занепадаюць.

У адным старым касьцеле быў на сьцяне вялізны малюнак:

1) ПАПА — ў урачыстым строю і подпіс: «Я вас усіх навучаю».

2) ЦАР — пышна адзеты і ў кароне: «Я вамі ўсімі кірую».

3) ГЭТМАН — у зброі, зь мячом: «Я вас ўсіх бараню».

4) СЕЛЯНІН — з плугам на полі: «Я вас усіх кармлю». І ўнізе:

5) Д'ЯБАЛ — вельмі злосны: «А я вас усіх схаплю, калі ня споўніце сваіх абавязкаў».

Адкладаны абавязак — штораз труднейшы.

На цябе чакае вялікі абавязак жыцьця.

*Др. Т. Тотн*

НЭЛЬСОН — слаўны ангельскі адмірал — уміраючы сказаў: «Дзякуй Богу я споўніў свой абавязак!»

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

### НЯПРОШАНЫ ГОСЬЦЬ

(Байка для мілых Суродзічаў)

Раз чорт паганы, дзе круціўся,
Ў рэдакцыю убіўся
І так сьмяецца — аж рагоча
Рэдактару, мне ў вочы!

І кажа: — Пішаш досыць кемна,
Але дарэмна.
Чытач твой прагавіты:
Хоць будзе век чытаці,
Ды ён — халера — воўк нясыты
І хвігу плаце!

— Пакінь ты марную работу —
Паслухай чорта,
Бо й валасы твае сівыя
І як ануча сіла зьдзёрта.
А хоць і маеш сам ахвоту,
Дык вочы падсьляныя —
Дд сёмага працуеш поту...
Дзесятак восьмы маеш з гакам —
Аж сам касьцей ня чуеш;
І, як малы быў небаракам,
Цяпер гаруеш.
— Кідай! Мо адпачынеш крышку?
Хай паскрабуцца ў часапісе
Малодшыя — ў парожняй місе: —
Пішы лепш кніжку!

*

Рэдактар кажа:
— Чорце любы,
Як ты мне спрытна баеш,
А рогі, кіпцюры хаваеш. —
Але з тваей пякельнай губы
Стырчаць вунь зубы!

— Ты чытачоў маіх аблётаў —
Іх на мяне бунтуеш,
Дый абдзіраеш іх із цнотай. —
Дурны ты чорт, ты збанкрутуеш!

— Суродзіч, хоць чытае слаба,
Яшчэ слабей мне плаціць;
Хоць «Шлях» мой дзяруць дзеці
І наракае баба —
Кідае «Шлях» у сьмецьце, —
Мне хлеба хваціць. —

— Дый «Шляху Божага» натура —
(Дзеля яго я так маруся!) —
Народу воля і культура —
За гэта б'юся!

— А ты, пякельная ліха, —
Цябе за ўсё такое,
Калі ня будзеш ціха,
Дык акраплю вадой сьвятою!.. —

Рэдактар глядзь! І аж здумеўся:
Стук-грук і ўсё прапала,
Бо толькі зь мейсца ўстаці меўся —
Чарта як ня бывала!

*

О, «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» людзі знаюць —
Чытаюць!
Чытач мой плаціць доўг адважна:
Ён ня скрыпіць, як дзед жабрушчы. —
Чытач жыве паважна,
Як зубр у пушчы.

*Рэдактар Я. Г.*

---

### ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.